УДК 908(476.6-21 Слонім)
ББК 26.89(4Беи)
Ч11

**Чыгрын, С.**

**Ч11** Гістарычная мазаіка Слонімшчыны. Кн. 2. / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2019. — 132 с.

ISBN 978-985-7227-02-0.

У кнізе адлюстравана гісторыя Слонімшчыны ў невялікіх тэкстах, розных фотаздымках і малюнках. Выданне арыгінальнае сваім дызайнам, паліграфічным аздабленнем і задумкай аўтара. Кнігу з цікавасцю пагартаюць і пачытаюць тыя, хто любіць і захапляецца гісторыяй сваёй Бацькаўшчыны.

**УДК 908(476.6-21 Слонім)**
**ББК 26.89(4Беи)**

**ISBN 978-985-7227-02-0**

# ПРАЦЯГ «ГІСТАРЫЧНАЙ МАЗАІКІ СЛОНІМШЧЫНЫ»

Напачатку 2019 года ў мінскім выдавецтве «Кнігазбор» пабачыла свет мая першая кніга «Гістарычная мазаіка Слонімшчыны», якая спадабалася не толькі слонімскім чытачам, але і тым, хто цікавіцца гісторыка-краязнаўчай літаратурай у межах усёй рэспублікі. Таму другая кніга «Гістарычная мазаіка Слонімшчыны» з'яўляюцца працягам першай.

Тэксты і здымкі ў кнізе дапаўняюць адзін аднаго, каб праўдзіва паказаць гісторыю слонімскай зямлі, лёсы людзей, помнікі, падзеі, факты. Ад першабытных людзей да сучасных падзей на Слонімшчыне — гэта падарожжа ў часе. Таму тых, хто захоплена ўглядаецца ў сівую мінуўшчыну Слонімшчыны і ў яе сучаснасць, чакаюць новыя адкрыцці і сустрэчы на старонках маёй кнігі.

## Першыя людзі на Слонімшчыне

Першыя людзі на тэрыторыі Слонімшчыны пачалі з'яўляцца яшчэ 14 тысяч гадоў таму, калі край наш уяўляў сабою тундравую і лесастэпавую прастору, праз якую мігравалі статкі паўночнага аленя. Самыя раннія стаянкі паляўнічых на паўночнага аленя ў нашым краі былі каля Едначоў, Камлявіч і Шылавіч, дзе знойдзены крамянёвыя прылады працы, якія выкарыстоўваліся старажытным чалавекам. Інтэнсіўнае ж засяленне Слонімшчыны пачалося толькі ў эпоху мезаліту (сярэдняга каменнага веку) — каля 10 тысяч гадоў таму.

Першыя людзі на Слонімшчыне



## Альгерт і Вітаўт, XIV–XV стагоддзі

Пры князю Альгерду, які быў вялікім князем з 1345 да 1377 гадоў, Слонімшчына заставалася ўдзельным княствам у складзе Вялікага княства Літоўскага і ахоўвалася



яго братам Кейстутам. Пасля таго, як у Крэве ў 1382 годзе быў задушаны Кейстут, Слонім перайшоў пад непасрэдную апеку князя Вітаўта. Вітаўт неаднаразова наведваў Слонім і ваколіцы. Прыязджаў ён сюды ў 1407 і ў 1409 гадах. Ды і пасля крэўскага астрогу, Вітаўт



ратаваўся на Слонімшчыне, меў тут надзейных сяброў і прытулак.

## Гарадзішча каля Збочна

Каля вёскі Збочна да сённяшніх дзён захавалася гарадзішча пачатку другога тысячагоддзя нашай эры з магутнымі кальцавымі валамі і равамі. Цэнтральная пляцоўка гарадзішча 45×60 метраў захоўвае культурныя напластаванні. Напластаванні адносяцца да XII–XIII стагоддзяў.



З паўднёвага ўсходу да гарадзішча прымыкала селішча з кружэльнай керамікай, а з поўначы — грунтовы могільнік, побач з якім меліся і курганы, раскапаныя Я. Міхайлоўскім у канцы XIX стагоддзя. Само гарадзішча не раскопвалася.

## Так распісваўся Леў Сапега

Яшчэ пры жыцці мой зямляк доктар гістарычных навук Васіль Іванавіч Мялешка падараваў мне гэты фотаздымак. На ім адлюстраваны канцлер Вялікага Княства Літоўскага, слонімскі староста Леў



Сапега (1557–1633), а пад фотаздымкам — яго аўтограф. Вось так распісваўся Леў Сапега. І сваю роспіс ставіў пад усе вялікія загады канцлера.

### Хто ўкленчваў перад Жыровіцкай Іконай Божай Маці?

Вёска Жыровічы з вядомым у свеце Свята-Успенскім манастыром знаходзіцца кіламетраў дзесяць ад Слоніма. Штогод манастыр наведвае больш за 60 тысяч турыстаў і вернікаў з усяго свету. Прыязджаюць у сам манастыр, а таксама, каб памаліцца Жыровіцкай Іконе Божай Маці, якая захоўваецца ва Успенскім саборы. Перад Іконай за 500 гадоў укленчвалі мільёны людзей з усяго свету. І толькі Прачыстая ведае, як пісаў айцец Леў Гарошка, колькі сыноў і дачок звярталіся да яе і каму Ікона дапамагла.

Немагчыма нават пералічыць, колькі славутых беларускіх магнатаў і мецэнатаў маліліся Іконе Жыровіцкай Божай Маці. Перад ёю станавіліся на калені Астрожскія, Агінскія, Палубенскія, Войны, Сапегі, Солтаны, Радзівілы, Слізені — ды ўсіх не пералічыць. Шмат разоў Іконе Жыровіцкай Божай Маці маліўся вялі канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега.

Каралі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай вельмі часта і пакорна схілялі перад Іконай свае галовы. Уладзіслаў IV разам з каралеваю адведаў Жыровічы 9 снежня 1644 года і былі там два дні. У 1667 годзе кароль Рэчы Паспалітай Ян



Казімір аддаў Жыровіцкаму манастыру вёскі Баравікі і Була. Ён таксама прыязджаў пакланіцца Іконе перад паходам на Багдана Хмяльніцкага ў час антыфеадальнай вайны ў 1648–1651 гадах. Кароль Ян Казімір заклікаў: «Мы вечна павінны з пашанаю аддаваць чэсць гэтаму абразу Божай Маці, бо праз Яе заўсёды атрымліваюцца багаславенствы і паводзіны дзяржаве». І Ян ІІІ Сабескі двойчы наведаў Жыровічы. Першы раз у 1683 годзе перад бітвай пад Венай, а другі раз разам з каралевічам Якубам у 1688 годзе. Амаль кожны манарх з дынастыі Ягелонаў таксама пабываў у Жыровічах.

Не абмінуў Жыровічы і Аўгуст ІІ Сас, а таксама Станіслаў Панятоўскі пакорна ўкленчваў перад Жыровіцкай Багародзіцаю… У 1929 годзе Жыровіцкай Іконе пакланяўся прэзідэнт Польшчы Ігнацы Масціцкі. І ў XXI стагоддзі ў Жыровічы прыязджаюць і палітыкі, і рэлігійныя дзеячы, і прадстаўнікі навукі і культуры з многіх куткоў свету.

## Да Касцюшкі ў Мерачоўшчыну

Дом-музей кіраўніка паўстання 1794 года, нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы і ЗША, ганаровага грамадзяніна Францыі Тадэвуша Касцюшкі (1746–1817) заўсёды адчынены для наведвальнікаў. У выхадныя і рабочыя дні спяшаюцца да Касцюшкі турысты з усяго свету, а таксама беларусы з розных куткоў нашай Бацькаўшчыны. Здалёк іх вітае прыгожы помнік героя, аўтарам якога з'яўляецца скульптар Генік Лойка. І перш чым наведаць дом-музей, усе спыняюцца каля помніка Тадэвушу Касцюшку і каля каменя з яго барэльефам. Пачынаюць фатаграфавацца: і сябе з Касцюшкам і помнік з мемарыяльным каменем.

Прыгожа і вольна ў Мерачоўшчыне. Здаецца, што з дома хутка выйдзе сам Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, прысядзе на лаўку, што побач з домам, і будзе доўга любавацца палацам Пуслоўскіх, і шчыра заклікаць усіх гасцей да сябе ў дом. Дарэчы, першае ўпамі-



Да Касцюшкі ў Мерачоўшчыну



нанне фальварка датуецца 23 кастрычнікам 1597 годам, калі быў складзены інвентар маёнтка Косава, запісаны ў актах Слонімскага земскага суда.



### Касцёл канонікаў латэранскіх, XVII стагоддзе

Ад касцёла канонікаў латэранскіх XVII стагоддзя засталася нам на памяць вось гэта старажытная гравюра. А самога прыгажуна-касцёла не захавалася. Пасля Люблінскай (1569) і Брэсцкай (1596) уній на Беларусі з'явіліся каталіцкія ордэны. З 1630 года ў Слоніме былі вядомы бернардзінцы, з 1645 года — бернардзінкі, з 1650 года — канонікі латэранскія і бенедзікцінкі, з 1660 года — францысканкі, з 1680 года — дамініканцы, з 1717 года — езуіты. Яны будавалі вакол Слонімскага замка свае кляштары. Але час, войны і людзі іх зруйнавалі.



### Слонімская губерня

Слонімская губерня была ўтворана загадам імператрыцы Кацярыны II 14 снежня 1795 года пасля падзелу Рэчы Паспалітай і далучэння краю да Расійскай імперыі. Слонімская губерня складалася з зямель



Слонімская губерня

Слонімскага, Гарадзенскага, Берасцейскага, Наваградскага, Ваўкавыскага, Лідскага, Пружанскага і Кобрынскага паветаў. На тэрыторыі Слонімскай губерні пражывала 607.986 чалавек. Слонімская губерня праіснавала толькі адзін год. У снежні 1996 года Слонім становіцца павятовым у Літоўскай, а з верасня 1801 года Гродзенскай губерняў.

### Шчыт Стэфана Баторы знаходзіўся на Слонімшчыне

Французскі тыднёвік «L'Illustration» («Ілюстрацыя») 2 жніўня 1862 года пазнаёміў сваіх чытачоў з маёнткам Слізеняў у Дзяваткавічах былога Слонімскага павета. Тыднёвік апублікаваў на сваіх старонках фотаздымак гравюры палаца Слізеняў у Дзяваткавічах. Гэту гравюру зрабілі два французскіх мастакі і брытанскі — Адольф Жан Бэст, Іяхім Жан Касон і Джозэф Берн-Смітон у Парыжы ў творчай майстэрні «Best. Cosson. Smeeton». Назоў гравюры быў падпісаны так: «CHATEAU DU COMTE DE SLIZIEN, AUX ENVIRONS DE SLONIM (LITHUANIE)» (Палац графа Слізеня ў ваколіцах Слоніма



(Літва)». Гэту гравюру ў французскім тыднёвіку адшукаў Мікалай Міцюшын, які шмат гадоў даследуе гісторыю сваёй роднай вёскі на Слонімшчыне.

Пад здымкам гравюры палаца Слізеняў быў апублікаваны і невялікі тэкст. У ім паведамляецца тое, што «род Слізеняў з'яўляецца адным з самых старых арыстакратычных». А выдатная сядзіба ў Дзявяткавічах была іх рэзідэнцыяй на працягу некалькіх стагоддзяў. У іх палацы ў Дзявяткавічах знаходзіліся калекцыі рэдкіх кніг, рукапісаў, карцін і іншых прадметаў мастацтва. Акрамя гэтага ў палацы Слізеняў, як пісалася ў тэксце, захоўваліся старыя рэчы — «шлем Карла адважнага і шчыт Стэфана Баторы»… Куды гэтыя скарбы зніклі — сёння толькі можна здагадвацца.

## Жыровічы, 1870–1890-я гады

Рэдкі і якасны здымак Жыровічаў канца XIX стагоддзя. Здымак захоўваўся ў Віленскім музеі Івана Луцкевіча. Пра гэта нагадвае штамп уверсе здымка справа. Як трапіў рэдкі здымак у музей Луцкевіча і хто яго рабіў — застаецца загадкай. Ведаю толькі, што ў стварэнні музеі прымаў удзел слонімскі паэт Гальяш Леўчык (1880–1944). Ён збіраў усё беларускае і амаль бясплатна дарыў музею. Магчыма і здымак старых Жыровічаў перадаў у Вільню Гальяш Леўчык. Але гэта маё суб'ектыўнае меркаванне. Тым не менш, здымак цікавы. На ім добра бачны і агароды, плот, дахі дамоў, сам сабор — усё дагледжана і акуратна. Адным словам нядрэнна выглядалі Жыровічы ў пазамінулым стагоддзі.




Жыровічы, 1870–1890-я гады

## Жыровіцкія дакументы уніяцкіх кангрэгацый

Пра Яўгена Валатоўскага чуў даўно. Але сустрэцца з ім і пагутарыць так у жыцці і не пашчасціла. Калі я скончыў універсітэт, яго ўжо не было ў жывых. Ён памёр на 75-м годзе жыцця 7 лютага 1985 года ў Жыровічах, дзе і пахаваны на мясцовых могілках побач з жонкай Валянцінай Мікалаеўнай. А недалёка ад іх вечным сном спачывае яго бацька протаіерэй Васіль Валатоўскі (1878–1961).

Яўген Валатоўскі па тым часе быў вельмі адукаваным чалавекам. Добра ведаў рэлігію, гісторыю, найперш цікавіўся гісторыяй Жыровіцкага манастыра. Шмат гадоў ён быў вучоным сакратаром Жыровіцкай духоўнай семінарыі, а потым выкладчыкам Жыровіцкага тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі. У Львове Яўген Валатоўскі нават абараніў кандыдацкую дысертацыю па творчасці Жорж Санд. Але Другая сусветная вайна перашкодзіла яму атрымаць усе неабходныя дакументы па сваёй абароне. А потым ён нікуды не лез, жыў і працаваў у Жыровічах.



Крыжаўзвіжанская царква ў Жыровічах

Яўген Валатоўскі сябраваў і перапісваўся з многімі вучонымі з былога Савецкага Саюза,а таксама з Польшчы і Літвы. У добрых адносінах наш зямляк быў і з доктарам філалагічных навук Адамам Мальдзісам. Хоць рэдка, але яны сустракаліся, гутарылі. Валатоўскі не раз паказваў яму рэдкія выданні XVIII–XIX стагоддзяў са сваёй асабістай бібліятэкі. Дзе ўсё зараз — невядома. У Мінскай вобласці жыве дачка Валатоўскага Таццяна Яўгенаўна Лазоўская. Некалькі разоў тэлефанаваў ёй, прасіў даць хоць фотаздымак бацькі. Яна абяцала, але так пакуль сустрэцца з ёй не атрымалася.

Нядаўна былы выкладчык гісторыі з Жыровічаў Ігар Падгарадзецкі, які цяпер жыве ў Германіі, прыгадаў Яўгена Валатоўскага і адзін цікавы факт з яго біяграфіі. Яўген Валатоўскі добра ведаў гісторыю Жыровічаў, лёс усіх жыровіцкіх скарбаў. Ён усё жыццё даследаваў і шукаў, дзе ў мурах Крыжаўзвіжанскай царквы ў Жыровічах знаходзяцца дакументы кангрэгацый Базыльянскага ордэна, якія адбы-

валіся ў Жыровіцкім манастыры ў XVII стагоддзі. Яўген Валатоўскі нават пісаў у Маскву, каб яму дазволілі пашукаць дакументы кангрэгацый. Але, атрымаўшы ліст ад Валатоўскага, з Масквы ў Жыровічы прыехаў Уладзімір Кураедаў, які з 1960 па 1965 гады быў старшынёй Савета па справах Рускай праваслаўнай царквы пры Савеце міністраў СССР, а потым з 1965 да 1984 гады працаваў старшынёй Савета па справах рэлігій пры Савеце міністраў СССР, генерал-лейтэнант КДБ. Кураедаў у Жыровічах сустрэўся з Валатоўскім і груба папярэдзіў, каб ён нават і не думаў пра гэтыя дакументы і назаўсёды забыўся, дзе яны ляжаць.

У 1970-х гадах з Яўгенам Валатоўскім у Жыровічах сустракаўся прафесар Адам Мальдзіс, які пытаўся ў яго пра жыровіцкія арацыі. Але, напалоханы візітам Кураедава, спадар Валатоўскі адказаў, што ніколі не бачыў у семінарскай бібліятэцы ніякіх арацый. «Пасля закрыцця семінарыі ўсе кнігі былі перавезены ў Загорск, — сказаў Валатоўскі і дабавіў, — праўда, кажуць, што ў часы, калі пачалася ліквідацыя уніі, манахі дзесьці ў падвале замуравалі сваю бібліятэку, архіў і скарбніцу...». Дзе закапалі жыровіцкія скарбы Яўген Валатоўскі не сказаў, хаця ён ведаў, але баяўся паказаць і расказаць. І дакументы уніяцкіх кангрэгацый, і кнігі, і розныя уніяцкія рэчы — гэта нацыянальныя скарбы Беларусі. І многія з іх па-ранейшаму захоўваюцца ў жыровіцкіх мурах.

Дарэчы, бібліятэцы акадэміі навук у Пецярбургу ў 1908 годзе быў перададзены збор рукапісаў, актаў і старых кніг, якія вывез з Жыровіцкага і іншых манастыроў Беларусі епіскап Павел Дабрахотаў, былы выкладчык уніяцкай (1837–1839), а затым праваслаўнай (1839–1845) духоўнай семінарыі ў Жыровічах. Самае каштоўнае ў тых зборах былі 3000 дакументаў (з іх больш за 30 на пергаменце), якія былі сшытыя ў 50 кніг. І ўсе яны прысвечаныя гісторыі Тураўшчыны і Піншчыны XVI–XVIII стагоддзяў.

## Святая крыніца ў Жыровічах

Паэт са Слоніма Алег Лойка некалі напісаў пра Жыровічы паэму, яна мае назву «Посах душы». Сама вёска Жыровічы знаходзіцца кіламетраў дзесяць ад Слоніма. Цяпер тут дзейнічаюць праваслаўныя духоўныя акадэмія і семінарыя. Але Жыровічы вядомы яшчэ тым, што тут у XVI стагоддзі быў заснаваны манастыр базыліян з цэрквамі і семінарыяй. І сёння Жыровічы — гэта беларуская праваслаўная Мекка. Сюды з усіх куткоў свету спяшаюцца вернікі, спяшаюцца да жыровіцкай святыні з комплексам храмавых і манастырскіх пабудоў, што захаваліся да нашых дзён. Жыровіцкая святыня цікава не толькі як унікальны праваслаўны рэлігійны асяродак, але і як помнік архітэктуры і гісторыі, як сі-





Святая крыніца ў Жыровічах

мвал складанага і нялёгкага лёсу беларусаў. А побач з Жыровічамі — струменіць святая крыніца. Кожны, хто бывае ў Жыровічах, абавязкова набірае з сабою вады з гэтай крыніцы. Алег Лойка з крыніцы і пачынае сваю Жыровіцкую паэму:

*Стаяла ў лесе крыніца,*
*А ў крыніцы — вадзіца,*
*Над вадзіцай — груша,*
*Да грушы — душою рушу.*
*Рушу я да крыніцы —*
*Вады святое напіцца,*
*Рушу да светлае грушы —*
*Светла на грушу дзівіцца.*
*Між пастушкамі стану,*
*Малітву з сэрца дастану,*

*Пець, пакуль сілы хваціць,*
*Жыровіцкай Багамаці...*

Паводле народнай легенды, у 1470 годзе на лясной дзікай грушы пастушкі знайшлі абразок. Абразок яны занеслі ў маёнтак Аляксандру Солтану. На тым святым месцы пабудавалі цэркаўку. А калі здарыўся пажар і цэркаўка згарэла, дзіўны абразок з'явіўся на камяні недалёка ад крыніцы. На тым месцы быў пабудаваны новы храм. Цяпер там узвышаецца Яўленская царква. А абразок Жыровіцкай Божай Маці зберагаецца ва Ўспенскім саборы.

Да 1939 года каля святой крыніцы знаходзілася капліца, асвячоная ў гонар Успення Божай Маці. Але з прыходам савецкай улады капліца была разбурана. Дык вось, на месцы з'яўлення нерукатворнага абраза Багародзіцы (1470 год) і б'юць — роўна з тае пары — цудатворныя крыніцы. Іх нікому не ўдалося знішчыць і ніколі не ўдасца. Цяпер вада струменіць ў засені дрэў, пад дахоўкай. А літаральна побач — за якія 20 крокаў — яшчэ ёсць і купель, дзе можна акунуць усё цела. Тая купель у атачэнні драўлянага зруба. Наогул, вакол святой жыровіцкай крыніцы з кожным годам добраўпарадкоўваецца тэрыторыя. Сюды з усяго свету спяшаюцца вернікі, каб набраць святой жыровіцкай вады. Многія людзі зімой і летам купаюцца ў купелі. Але, як кажуць мясцовыя людзі, што не было выпадку, каб пасля купелі — нават узімку — нехта захварэў. На тое, маўляў, і святая вада, што прыносіць душэўнае і цялеснае збаўленне ад нядужання.

### Ратуша

На вуліцы Савецкай, 6 у Слоніме, насупраць помніка-танка, знаходзіцца двухпавярховы стары будынак. У ім з 1988 года размяшчаецца раённая бібліятэка. Для яе, вядома ж, гэтага будынку мала. Невялікія пакоі, вузкі калідор, кнігі са стэлажамі надаюць памяшканню яшчэ большую няўтульнасць і цеснату. Для 50-тысячнага горада такога памяшкання вельмі мала. Хочацца мець вялікую, прасторную, светлую сучасную бібліятэку з актавай залай, з камп'ютарнымі кабінетамі, з выставачнай залай і г. д. Але хто і калі такую бібліятэку пабудуе ў Слоніме? Магчыма ніхто і ніколі. Дай Божа, каб хоць гэта засталася і ў бліжэйшыя гады яе не закрылі. Памяшканне бібліятэка атрымала тады, калі яго вызвалiў Слонімскі гарвыканкам, які тут месціўся пасля заканчэння Другой сусветнай вайны аж да канца 1980-х гадоў. Але не гэтым памяшканне каштоўнае. А тым, што яно было пабудавана ў другой палове XVIII стагоддзя. І тут знаходзілася гарадская ратуша. Сам будынак з'яўляецца архітэктурным помнікам Слоніма, ён захаваў рысы барока. Пра слонімскую ратушу і яе гісторыю зусім не захавалася ніякіх успамінаў і матэрыялаў. Калі гэты



Ратуша

будынак дастаўся бібліятэцы, мастакі Яўген і Алег Івановы на шкле намалявалі партрэт Якуба Коласа З левага боку ад галоўнага ўваходу бібліятэкі на сцяне прымацавана шыльда, прысвечаная слонімскаму піянеру-герою Васю Крайняму, які загінуў падчас Другой сусветнай вайны на Слонімшчыне. Ёсць і шыльдачка, якая нагадвае, што гэта помнік архітэктуры і ахоўваецца дзяржавай.

## Сэрца Міхала Казіміра Агінскага знаходзілася ў Слоніме

Шмат гадоў служыў настаяцелям Слонімскага фарнага касцёла Святога Андрэя дэкан Вітольд Жальветра. Дзякуючы яму ў 1990-х гадах помнік барока ўдалося выратаваць і аднавіць для вернікаў. Са слоў былога настаяцеля слонімскага касцёла Святога Андрэя, пачуў наступнае: «Хачу сказаць, што перад пачаткам рэстаўрацыі касцёла ў тыя 1990-я гады тры гадзіны сем самазвалаў вывозілі з касцёла смецце і соль. Але перш





Сэрца Міхала Казіміра Агінскага знаходзілася ў Слоніме

чым соль вывезлі, мужчыны тры месяцы яе адбівалі. Вось у гэтым хламе і знайшлі шэсць мемарыяльных шыльдаў, якія раней месціліся на сценах касцёла. Многія з іх былі паколаныя. Знайшлі мы там і шыльдачку, прысвечаную вялікаму каталіцкаму дзеячу Пятру Скаргу. Аднавілі і замацавалі яе на сцяне касцёла. А аднойчы прыходзіць у касцёл адзін чалавек і кажа, што ў нішах касцельнага скляпення пахавана сэрца Міхала Казіміра Агінскага. Гэтае сэрца знаходзілася ў срэбным куфэрку з надпісам «Сэрца Агінскага». Калі разбураўся касцёл, куфэрак укралі і вывезлі на Усход».

Сапраўды, перад смерцю гетман Міхал Казімір Агінскі сказаў, што «я належу вялікай Рэчы Паспалітай, але маё сэрца належыць Слоніму». Просьба гетмана была выканана.

## Слонімскі генерал Ян Канопка (1777–1815)

Генерал Ян Канопка (нарадзіўся ў вёсцы Скоўдзічы) ваяваў на баку Банапарта Напалеона. Сустракаўся асабіста з Напалеонам, які дазволіў сфармаваць Трэці ліцвінскі ўланскі полк імператарскай гвардыі. У палку было каля 800 чалавек, у асноўным студэнты Віленскага ўніверсітэта. Пасля перамогі



Слонімскі генерал Ян Канопка (1777–1815)

Напалеон абяцаў аднавіць Вялікае Княства Літоўскае. Таму ў беларусаў-ліцвінаў была надзея…

Ян Канопка памёр у Варшаве, але прасіў, каб яго пахавалі на Слонімшчыне. Што было і зроблена. Шмат гадоў шукаю яго магілу, а раптам — знойдзецца. Яна можа быць на адных са слонімскіх могілак, ці ў Скоўдзічах, ці ў вёсцы Дубраўка на Дзятлаўшчыне. Пакуль нічога знайсці не ўдалося. На жаль…

Партрэтаў Яна Канопкі няма. Захаваліся два, дзе ён сядзіць вярхом на кані. Вось адзін з іх.

### Відэлец з афіцэрскай сталовай, 1910-я гады

Да Першай сусветнай вайны ў Слоніме ў казармах, дзе зараз знаходзіцца Слонімская 11-я механізаваная брыгада, дыслацыраваўся 118 Шуйскі пяхотны полк імператарскай арміі. У афіцэрскай сталовай у Слоніме вайскоўцы харчаваліся з талерак вось такімі відэльцамі. Яны былі зроблены з мельхіёру, на іх стаяў штамп, была гравіроўка і кляймо вытворцы Fraget. Даўжыня вілкі складала 21,5 см. Гэты відэлец — вельмі рэдкі прадмет гісторыі ўзброеных сіл.







Рэальнае вучылішча на паштоўцы, пачатак XX стагоддзя

### Рэальнае вучылішча на паштоўцы, пачатак XX стагоддзя

Усім знаёмы гэты стары будынак на Чырвонаармейскай вуліцы. У XX стагоддзі было там рэальнае вучылішча, потым — семінарыя, пасля — беларуская школа, ліцэй… У гэтым будынку вучыліся многія знакамітыя слонімцы. Сярод якіх — Валянцін Таўлай, Алег Лойка, Іван Чыгрын, Сцяпан Міско… і г. д. Напачатку XX стагоддзя рэальнае вучылішча трапіла і на паштоўку.

### Слонім з гістарычнай вышыні

Калі пачынаю пісаць пра Слонім і яго гісторыю, прыгадваюцца заўсёды паэтычныя радкі гродзенскай паэткі Дануты Бічэль:

*Горад мой — бяссонніца мая,*
*Як мне не спяваць табе, скажы!*
*Свеціш ты Краіне, бы маяк*
*На яе заходнім рубяжы!*

Праўда, гэтыя радкі паэтка адрасавала Гродна, але яны, нібыта прысвечаны і майму роднаму Слоніму. Бо мой горад, сапраўды, мне ўсё жыццё свеціць, бы маяк. І сню яго, і думаю пра яго, і пішу пра свой спрадвечны горад над Шчарай з вялікай цікавасцю і радасцю. І калі вяртаюся са шматдзённых вандровак, то заўсёды свой горад пазнаю здалёк па храмах, якія бачны за некалькі кіламетраў пры пад’ездзе да гарадской рысы. Купалы храмаў Слоніма бачны здалёк не толькі сёння, але госці і слонімцы горада над Шчарай пазнавалі іх і сто, і дзвесце гадоў таму. Вось яны на гэтых старых паштоўках.




Слонім з гістарычнай вышыні









## Вялікі камень Кракоцкі

Каля двух кіламетраў на усход ад вёскі Вялікая Кракотка знаходзіцца помнік прыроды рэспубліканскага значэння — валун «Вялікі камень Кракоцкі». Інакш гэты камень людзі называюць — камлыга Кракоцкая. Вялізны валун з чырвонага граніту ўвесь пакрыты мохам. На жаль, ён паціху разбураецца, бо кавалкі граніту ад камлыгі адломліваюцца. Дый узрост гэтага валуна вучоныя ацэньваюць у 150–200 тысяч гадоў. Агульная плошча валуна 6,7 квадратных метраў.





Наогул, на Слонімшчыне шмат геалагічных помнікаў. Каля той жа вёскі Вялікая Кракотна знаходзіцца яшчэ адзін помнік прыроды — камень з ямкамі Кракоцкі. Яго даўжыня 3,5 м, вышыня 1,5 м. Ёсць яшчэ вялікі камень Сянькоўшчынскі, Расколаты камень у Альбярцінскім лясніцтве і іншыя. Усяго на Слонімшчыне сёння 7 буйных валуноў, якія ў Беларусі ўзяты пад ахову дзяржавы.

### Слонімская кафля, канец XIX стагоддзя

Кафлі як выраб прызначаюцца для канструкцыі печаў. Яны найперш вызначаюцца сваімі арнаментальнымі матывамі і стылем. У мінулыя стагоддзі Слонімшчына заўсёды славілася кафельнымі заводамі і фабрыкамі. Іх выпускалася шмат. І прадавалі ў розныя гарады і краіны. Слонімскія і альбярцінскія кафлі ўпрыгожвалі палацы Сапегаў, Агінскіх, Пуслоўскіх, Слізеняў… Эх, сабраць бы хоць па адной кафлі Слонімшчыны за апошнія пяць стагодзяў і стварыць музей ці хаця б выставу. Там можна было б шмат убачыць прыгожых і з густам зробленых кафляў. Вось адна з іх канца XIX стагоддзя.

### Нямецкі канцэрт у цэнтры горада, 1916 год

Першая сусветная вайна. Немцы акупіравалі Слонім. У цэнтры горада каля гандлёвых радоў (цяпер Першамайская вуліца) нямецкі ваенны аркестр дае канцэрт. Паслухаць ваенных музыкантаў прыйшлі сотні слонімцаў розных узростаў: ад старога да малога. А двух хлопчыкаў найбольш цікавіць, як іх фатаграфуе невядомы нямецкі фатограф, які праз пэўны час выпусціць для гісторыі гэту ўнікальную паштоўку.





Касцёл Святога Андрэя, 1915–1916 гады













## Касцёл Святога Андрэя, 1915–1916 гады

На плошчы Льва Сапегі ў Слоніме ўзвышаецца фарны касцёл Святога Андрэя — помнік архітэктуры барока XVIII стагоддзя. Храм здзіўляе пластыкай фасада, багаццем скульптурна-дэкаратыўнай апрацоўкі. Асноўны дэкор сканцэнтраваны на галоўным фасадзе. Гэта — глыбокія нішы, слаістыя пілястры, фігурны франтон. Дзве вежы, пастаўленыя пад вуглом да фасада, узмацняюць яго пластычную пабудову. Скульптурнае ўбранне інтэр'ера нясе рысы мастацтва ракако. У архітэктурны комплекс уваходзяць таксама брама і манастырскія карпусы. Касцёл Святога Андрэя з'яўляецца сёння своеасаблівай брамай старажытнага горада над Шчарай. Хаця лёс касцёла складваўся на працягу стагоддзяў па-рознаму. Найбольш нягод яму прынесла другая палова XX стагоддзя. Тым не менш слонімскі помнік выстаяў, не скарыўся.

Касцёл Святога Андрэя ў Слоніме з'явіўся з дрэва ў 1493 годзе, а ў 1595 годзе яго пабудавалі з цэглы і з камення. Касцёл дапамог аднавіць Леў Сапега пасля таго, як яго знішчылі крымскія татары. Грунтоўна храм перабудоўваўся ў 1660 годзе, а ў 1775 годзе яго ўзвялі ў стылі барока.

У часы Льва Сапегі касцёл Святога Андрэя ператварыўся ў адзін з цэнтраў рэлігійнага жыцця як Слоніма, так і ўсяго Вялікага княства Літоўскага. На тэалагічныя дыспуты сюды прыязджалі Сымон Будны, Пётр Скарга, падканцлер Казімір Сапега, які любіў паўдзельнічаць у дыспутах, і многія іншыя вядомыя людзі нашай зямлі. Акрамя касцёла Святога Андрэя, чальцы дынастыі Сапегаў узвялі ў Слоніме касцёл бернардынцаў, малітоўню для рэгулярных латэранскіх канонікаў. Апрача гэтага, Сапегі спрыялі распаўсюджванню ў Слоніме школ ды калегіумаў, якія знаходзіліся пры гарадскіх касцёлах ды цэрквах. У Слоніме часоў Льва Сапегі існавала вялікая бібліятэка і друкарня, дзе, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, набіраўся вядомы на ўсю Еўропу Статут Вялікага Княства Літоўскага. Найбольшую шкоду касцёлу прынеслі бальшавікі ў XX стагоддзі. Яны ледзь не поўнасцю знішчылі гэты славуты храм. А ў пасляваенныя гады тут месціўся склад са збожжам, а пасля з соллю. А так касцёл Святога Андрэя выглядаў у 1915–1916 гадах.






Саборная вуліца, пачатак XX стагоддзя

### Саборная вуліца, пачатак XX стагоддзя

Паштоўка была надрукавана напачатку XX стагоддзя. На ёй адлюстравана Саборная вуліца ў Слоніме (цяпер вуліца Пушкіна). Злева — вежа сабора. Насупраць сабора — прыватныя дамы, а ў далечыні бачны стары будынак, у якім пасля вайны знаходзіліся райвыканкам, потым міліцыя, а цяпер, здаецца, Навагрудская епархія купіла ці ёй проста будынак перадалі….

### Легенды пра валун «Расколаты камень»

Калі ехаць са слонімскага мікрараёна Альбярцін убок вёскі Якімавічы, недалёка ад гравійнай дарогі ў лесе, знаходзіцца вялікі валун «Расколаты камень». Ён больш за тры метры ў вышыню, тры з паловай метры ў шырыню і ў даўжыню.

Сярод мясцовых жыхароў бытуе легенда, што некалі тут жыў Янка-асілак. Аднойчы ён сустрэў дзяўчыну незвычайнай прыгажосці і моцна закахаўся. Дзяўчына таксама пакахала юнака. Але аб прыгажуні даведаўся двухгаловы змей і прыляцеў па яе. Насустрач змею выйшаў Янка-асілак і сказаў: «Трымаю бой на жыццё і смерць, але сваю дзяўчыну табе не аддам».

Янка-асілак і змей сышліся ў чыстым полі. Загрымелі мячы і пачалася бойка. Яны доўга біліся і Янка бачыць, што перамога зусім блізка. Але ён раптам адчуў, што моцна прытупіўся яго меч. «Эх, і патачыць няма чым! — усклікнуў Янка. — Хоць бы камень які пад рукой аказаўся».

І вырасла перад ім скала, як быццам шчытом закрыла. Не змог змей дастаць сваім мячом Янку, злосна секануў па камені што было сілы — раскалолася скала і выбі-



ла меч з варожых рук. Тут Янка і дабіў змея. А расколаты валун да сённяшніх дзён ляжыць на слонімскай зямлі.

Пра слонімскі валун «Расколаты камень» існуе і другая легенда. Неяк вяртаўся пан Пуслоўскі з лецішча ў свой маёнтак, што быў у Альбярціне. У дарозе яго застала навальніца. Фаэтон Пуслоўскага спыніўся каля самага каменя-валуна. У гэты момант моцна стукнула маланка і трапіла проста ў камень, які ад удару раскалоўся на дзве часткі.

Два тыдні ў маёнтку Пуслоўскіх гарэлі свечкі ў знак таго, што камень выратаваў пана. Ён пасля загадаў паставіць на камяні крыж. А неяк слугі Пуслоўскага спрабавалі даведацца, на колькі метраў валун знаходзіцца ў зямлі. Яны пракапалі ўглыб на некалькі метраў, але асновы так і не знайшлі.





Пан загадаў спыніць гэту работу і засыпаць яму. Што слугі і зрабілі.

Расказваюць людзі і пра трэцюю легенду пра расколаты камень. Калі на нашу зямлю прыйшлі бальшавікі, яны знішчылі многія



Крыжы на Ружанскіх могілках, 1916 год

гістарычныя помнікі. Гэта адбывалася і на Слонімшчыне. Нейкі камісар загадаў узарваць валун некалькім салдатам. А ў той час, магчыма, камень мясцовым насельніцтвам успрымаўся, як рэлігійная святыня, што і стала прычынай такой нянавісці з боку атэістычнай улады. Заклалі бальшавікі пад камень узрыўчатку ды самі падчас выбуху загінулі, а ад валуна адкалоўся толькі маленькі кавалачак.

Некалі ў шчыліну расколатага каменя магла ўлезці толькі рука. А сёння шчыліна стала шырынёй больш за адзін метр. Мабыць быў на камені і крыж, бо зверху ёсць паглыбленая адтуліна. Расколаты камень-валун вось так выглядае сёння.

Некалькі гадоў таму невядомыя вандалы знішчылі мемарыяльную шыльду, якая была прымацавана ў спецыяльнай каменнай рамцы. Але цяпер леснікі паставілі шыльдачку ў каменную рамку і яна ёсць. Магчыма, валун «Расколаты камень» на Слонімшчыне быў прынесены ледніком каля 220–150 тысяч гадоў таму назад са Скандынавіі адзіным блокам. Адны лічаць, што камень раскалоўся тады, калі раставаў лёд. Іншыя кажуць, што ў 1935 годзе ў камень стукнула маланка. Тым не менш, валун «Расколаты камень» на Слонімшчыне сёння з'яўляецца геалагічным помнікам прыроды рэспубліканскага значэння.

## Крыжы на Ружанскіх могілках, 1916 год

Ружанскія могілкі ў Слоніме — адны са старых могілак горада. Ім каля 300 гадоў. Ды і сама Ружанская вуліца вядома з XVII стагоддзя. З самага пачатку вуліца называлася Ражанская. Потым яе перайменавалі ў 1961 годзе ў гонар дзяржаўнага дзеяча Конга Патрыса Лумумбы. Але ў 1990-х гадах творчай інтэлігенцыі Слоніме ўсё

Параненыя салдаты каля шпіталя, 1917 год





ж удалося вярнуць старую назву вуліцы. А так выглядалі могілкі з крыжамі на Ружанскай вуліцы падчас Першай сусветнай вайны. Пад гэтымі крыжамі былі пахаваны людзі розных веравызнанняў і нацыянальнасцей, якія загінулі у 1914–1917 гадах.

## Параненыя салдаты каля шпіталя, 1917 год

Параненыя нямецкія салдаты Першай сусветнай вайны праходзяць курс лячэння ў Слоніме ў ваенным шпіталі. Шпіталь быў драўляны, аднапавярховы. Па здымках вызначыць, дзе шпіталь знаходзіў-



Касцёл у цэнтры горада, пачатак XX стагоддзя

ся немагчыма. Але бачна, што вяскоўцы адчувалі сябе добра. А ў вольны час нават спявалі песні, бо мелі і свайго гарманіста.

## Касцёл у цэнтры горада, пачатак XX стагоддзя

Дзе сёння знаходзіцца Спаса-Праабражэнскі сабор, напачатку XX стагоддзя ўзвышаўся да неба гэты касцёл. Храм упрыгожваў сам горад. Перад ім была брукаваная плошча. Ад плошчы касцёл аддзяляў вялікі белы плот. Шмат гэтыя гістарычныя сцены храма бачылі на сваім вяку. Шкада, што час і ўлада не захавалі гістарычныя сцены гэтага старога храма. А на іх месцы, пачынаючы з 1994 года, быў пабудаваны праваслаўны сабор.

## У Слоніме выпускалі запалкі, першая палова XX стагоддзя










Першыя запалкавыя фабрыкі, як сведчыць Беларуская энцыклапедыя, у Беларусі з’явіліся ў другой




палове XIX стагоддзя. На той час гэтыя прадпрыемствы выраблялі небяспечныя запалкі з прымессю белага фосфару (бяспечныя былі распрацаваны ў Швейцарыі ў 1855 годзе).

Напрыканцы XIX стагоддзя ў Беларусі працавалі ўжо 14 паўсаматужных запалкавых фабрык. Сярод іх была фабрыка і ў Альбярціне каля Слоніма. Яе адкрылі О. Гавінавіцкі і Ю. і М. Маркусы. Фабрыка мела назву «Шчара».

У пачатку XX стагоддзя ў Слоніме з’явілася яшчэ адна прыватная запалкавая фабрыка «Край» Дубінбаўма і Штэйнберга. На гэтай фабрыцы працавалі каля дзвесце чалавек. Умовы працы былі вельмі цяжкія. Таму 18 мая 1905 года на запалкавай фабрыцы «Край» адбылася забастоўка рабочых. Яны патрабавалі ад гаспадароў прадпрыемства скарачэння рабочага дня да 10 гадзін і павышэння заработнай платы на 20–30 %. Забастоўку рабочых запалкавай фабрыкі падтрымалі і іншыя прадпрыемствы горада.

Запалкавыя фабрыкі ў Слоніме праіснавалі да Першай сусветнай вайны. У 20–30-х гадах XX стагоддзя іх спрабавалі аднавіць. У Слоніме пачала працаваць запалкавая фабрыка «Elektra», але з-за фінансавых праблем яна доўга не праіснавала.

### Альбярцінскае пасведчанне, XIX стагоддзе

Цікавы дакумент нядаўна трапіў мне ў рукі — гэта пасведчанне ўпаўнаважанага Францішка Ксаверыя графа Пуслоўскага. На старой паперы з пячаткаю і вуглавым альбярцінскім штампам на польскай мове напісана: Пасведчанне. Гэтым сведчу, што п[ан] Міхал Кошэляк служыў у Альбярціне — рэзідэнцыі Фр[анцішка] К[саверыя] графа Пуслоўскага агароднікам з 23 верасня / 5 кастрычніка 1878 г[ода] да 15/27 красавіка 1882 года, а, паводзячы сябе спакойна, сумленна



і цвяроза, абавязак свой выконваў старанна, даўшы доказы ведання справы згодна ягонай прафесіі; па яго ўласнай просьбе быў вызвалены. д[ня] 16 красавіка 1882 г[ода]. Альбярцін. Упаўнаважаны Фр[анцішка] К[саверыя] гр[афа] Пуслоўскага (подпіс неразборлівы)

Падобныя дакументы — сведкі нашай гісторыі. Яны нас вяртаюць у мінулае і распавядаюць пра тое, чым займаліся людзі, напрыклад, у таго ж графа Пуслоўскага, як яны сябе паводзілі, як выконвалі свае службовыя абавязкі і г. д. І пра гэта мы таксама павінны ведаць.

## Слонімская модніца, 1910–1920-я гады

Не думаю, што слонімскі фатограф Барыс Вайнштэйн гэту сланімчанку так апрануў перад тым, як сфатаграфаваць. Дзяўчына сама з парасонам, хусцінкай і пальчаткамі, у прыгожым убранні з капялюшыкам прыйшла да яго ў фотамайстэрню. Прыйшла, каб сфатаграфавацца на памяць. Ды і як не закахацца ў такую прыгажуню і модніцу?! І няўжо мы так бедна жылі напачатку XX стагоддзя? Відаць, як хто. Але гэтай шляхетнай арсланімчанцы пашанцавала.



## Спаса-Праабражэнскі сабор, пачатак XX стагоддзя

Падчас археалагічных раскопак каля Спаса-Праабражэнскага сабора ў Слоніме юныя археолагі разам з малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі Навук Аляксандрам Максімовічам летам 2018 года знайшлі каштоўны археалагічны экспанат — каменны крыжык-карсунчык XI-XIII стагоддзяў. Знайшлі крыжык там, дзе стаяў вось гэты прыгажун сабор да 1963 года. Падчас вайны ён быў пашкоджаны бомбай. А пасля вайны сабор дабілі танкамі і нават яго




Спаса-Праабражэнскі сабор, пачатак XX стагоддзя

ўзрывалі. З 1994 года айцец Віктар пачаў будаваць новы. І пабудаваў: і сабор, і капліцу, і зараз ідзе побач будаўніцтва службовага будынку. А які быў сабор у Слоніме 100 гадоў таму бачна на гэтай паштоўцы.

## Жыхары вёскі Хадзявічы на старых фотаздымках

У хатнім прыватным архіве захоўваю шэраг фотаздымкаў сваіх землякоў — жыхароў вёскі Хадзявічы Слонімскага павета першай паловы XX стагоддзя. На іх адлюстраваны мае аднавяскоўцы, кожны з іх меў лапік уласнай зямлі, з ранку да вечара вяскоўцы працавалі на ёй, каб жыць па-людску Мае аднавяскоўцы, як і ўсе беларусы, наведвалі праваслаўныя і каталіцкія храмы, найчасцей яны хадзілі ў Сынковіцкую царкву, якая побач з вёскай, і ў Парэцкую царкву. Многія дабіраліся ў Слонім і ў Жыровічы. Мае аднавяскоўцы мелі па 10–20 гектараў уласнай зямлі, свой лес, аралі поле, жалі жыта і саджалі маладзенькія дрэўцы. Яны выходзілі замуж і жаніліся, нараджалі і гадавалі дзяцей. Яны ездзілі на кірмашы і адзначалі Вялікдзень, Тройцу, Пятро, Міколу,



Браты Жукі, пачатак XX стагоддзя



Жанчыны з вёскі Хадзявічы і суседніх вёсак на пасадцы леса, 1931 год



Уладзімір Жук, Іван Важэйка, Пятро Важэйка і Мікалай Ігнатовіч (злева направа), 1920-я гады. Фотаздымак зроблены слонімскім фатографам Б. Вайнштэйнам



Пётр Шундрык, Іван Саванец, Уладзімір Саванец і Кастусь Саванец (злева направа), 1930-я гады

Юр'е, Пакровы, Міхайла, Каляды… Мае аднавяскоўцы ніколі не любілі савецкай улады, не хацелі ісці ў калгасы. Мае землякі заўсёды жадалі вучыцца. Яны паступалі ў Віленскую беларускую гімназію, а Васіль Новік пасля гімназіі вучыўся і ў Віленскім універсітэце і ў Белдзяржуніверсітэце. Мае аднавяскоўцы праважалі на фронт сваіх дзяцей і мужоў, радаваліся сустрэчам, атрымлівалі «пахаронкі» і жылі пры розных акупантах. Маіх аднавяскоўцаў арыштоўвалі і расстрэльвалі супрацоўнікі НКУС. Мае аднавяскоўцы салілі агуркі, квасілі капусту, збіралі грыбы і ягады, курылі тытунь. Мае аднавяскоўцы любілі і ўмелі адпачываць, спявалі беларускія народныя песні і жадалі адзін аднаму шчаслівай долі. А доля ў тых, хто жыў у першай палове XX стагоддзя, была няпростая. Выглядалі мае аднавяскоўцы 70–100 гадоў таму так, як на гэтых старых фотаздымках.



Сёстры Агата і Юля Акулкі, 1930-я гады



Хадзявец Іван Акулка (справа) з сябрам у Порт-Артуры, 11 верасня 1946 года



Юлія Акулка выходзіць замуж, 1930-я гады

## Будынак на вуліцы Пушкіна, 1915 год

Так выглядаў сённяшні будынак на вуліцы Пушкіна, дзе цяпер знаходзіцца падатковая інспекцыя 100 гадоў таму. Праўда, падатковай інспекцыі ў 1915–1916 гадах там не было, а ў ім месціўся адзін са штабоў кайзераўскіх войск, сам будынак выглядаў менавіта так.



Наогул, будынак, як бачыце, быў даволі арыгінальны і своеасаблівы. Ён і сёння застаецца прыгожым, а тады дужа ўпрыгожваў вуліцу Апанасоўскую, якая вядома была яшчэ з 17 стагоддзя. Паштоўку выдавалі немцы падчас Першай сусветнай вайны.

## Паштовыя штампы і фірменныя знакі, 1894–1915 гады

У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя Слонім знаходзіўся ў складзе Расійскай імперыі. У горадзе працавалі пошта, розныя прыватныя банкі, заводы і фабрыкі. Вельмі рэдкая паштовая пячатка Слоніма 1894 года, фірменныя знакі банкаўскай канторы Лазінскага, 1915 года, драждживы і вінароб-











чы завод Айзенштадта, 1915 года, нагадваюць пра той далёкі час у Слоніме.

## Вясковая баба з Трыбушкоў, 1904–1914 гады

Люблю гэту першую слонімскую паштоўку, якая была выдадзена на беларускай мове выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша ваконца» у Санкт-Пецярбурзе. Тады славутае выдавецтва выпусціла напачатку XX стагоддзя больш за 20 беларускіх паштовак і шмат кніг. На паштоўку трапіла вясковая баба з Трыбушкоў (цяпер гэта вёска Мірная недалёка ад Новадзявяткавіч). Ды далёка тут не баба, а вясковая дзяўчына з асцярожным позіркам-усмешкай глядзіць у наша XXI стагоддзе.



Каля гандлёвых радоў у цэнтры Слоніма, 1914 год



Вуліца Ружанская, 1916 год



## Каля гандлёвых радоў у цэнтры Слоніма, 1914 год

Адзін з любімых маіх фотаздымкаў старога Слоніма. Глядзеў бы, здаецца, на яго бясконца.А бывае так хочацца вярнуцца ў той час, падыйсці да гэтых вяскоўцаў і гараджан, паслухаць, пра што людзі кажуць, што іх хвалюе і што іх радуе. Сесці на гэты воз і паехаць па дарогах Слонімскага павета, слухаючы жыццёвыя аповеды маіх дзядоў і прадзедаў. Нізкі вам паклон, мае далёкія землякі!

## Вуліца Ружанская, 1916 год

Вуліца Ружанская (Ражанская) ў Слоніме — адна са старэйшых вуліц горада. К канцу XIX стагоддзя архітэктурнае аблічча Слоніма пачало мяняцца. Але гістарычная кампазіцыя горада над Шчарай захоўвалася ранейшай. Упарадкаванымі былі ў Слоніме толькі цэнтр горада, вуліцы Ружанская, Апанасоўская, Студэнцкая і Жыровіцкая.

Астатнія вуліцы і завулкі, на якіх жылі бедныя людзі, патаналі ў брудзе. На жаль…

### Слонімскі гандаль, 1914 год

Напярэдадні Першай сусветнай вайны Слонім жыў сваім звычайным і будзённым жыццём. У горадзе мелася больш за 900 мураваных дамоў, закладваліся прамысловыя прадпрыемствы і майстэрні. Насельніцтва горада дасягнула 21 тысячы чалавек.

Як грыбы пасля дажджу ў горадзе над Шчарай з'яўляліся ўсё новыя і новыя гандлёвыя прыватныя кропкі. Таму дадавайце разам павандруем па цэнтры Слоніма 100-гадовай даўніны. Што ж можна было і ў каго тады купіць?

Прыватныя крамы і склады ў асноўным трымалі ў Слоніме яўрэі. Іх было шмат. Напрыклад, насупраць сабора і Маставой вуліцы (цяпер Янкі Купалы) была крама суконных, мануфактурных і футравых тавараў Грушавіцкіх і Якімоўскіх. Там быў даволі вялікі выбар шарсцяных, плюшавых і ватных коўдраў, дываноў, дарожак, фіранак. А лямец і палотны прадаваліся ў краме Шымеля Савіцкага.




Хто жадаў купіць сабе лямпу, шкло, посуд — маглі гэта зрабіць, наведаўшы краму Ш. Анекштэйха ці краму посуду і лямпаў Ісака Куніцы. На Гандлёвай вуліцы (цяпер Першамайская) ва ўласным доме Ісак Куніца гандляваў самаварамі, аконным шклом і рознымі гаспадарчымі прыналежнасцямі.

Слонімец Кісель Язерскі таксама меў сваю вялікую краму жалезных і чыгунных тавараў. У яго можна было купіць цэглу, фарбу, малацілкі, веялкі, цэмент, гіпс, смалу, керасін і нават саларэзкі і соль для коней.

Меў свой прыватны магазін стальных і медных тавараў нехта Эдэльман, гандляваў рознымі фарбамі і паляўнічымі прыборамі і нехта Рахавіцкі. А яўрэй Майсей Мешаль трымаў свой уласны склад бакалейных тавараў, тытунёвых вырабаў усіх вядомых у свеце фірмаў. Там заўсёды было людна, бо слонімцы і вяскоўцы часта куплялі ў Мешаля і шпалеры, і фарбы, цэмент, гіпс, смалу, шведскі кардон.

Тытунёвыя вырабы прадаваліся ў Слоніме ў некалькіх крамах. Асабліва даспадобы для тых хто курыў, была крама тытунёвых і бакалейных вырабаў Шылавіцкага.

Карысталіся папулярнасцю сто гадоў таму ў Слоніме і розныя бу-

даўнічыя магазіны і лесапільныя заводы. Яны былі даволі дарагія, але багатыя людзі іх не міналі. Бо маглі там заказаць матэрыял альбо купіць ужо гатовыя тавары. Лесапільныя і дрэваапрацоўчыя заводы Ханона Штэйнберга і Дубінбаўмана з радасцю сустракалі сваіх кліентаў. Не ўсе слонімцы маглі тады купіць і чарапіцу ў краме Элькана, ці мэблю і люстэркі ў краме А. Парэцкага. Існавала ў Слоніме і будаўніча-тэхнічная кантора інжынераў Дамантовіча і Радзішэўскага, а таксама тэхнічнае бюро, склад земляробчых машын, прылад для малочнай гаспадаркі Лазінскага. Калі хто ў пана Лазінскага заказваў машыны ці прылады, іх гаспадары самі прывозілі дамоў, падключалі, тлумачылі, давалі ключы і нават была гарантыя. А тыя слонімцы ці вяскоўцы са Слонімскага і іншых паветаў, якія мелі ў хатніх гаспадарках малатарні, маглі на іх зрабіць розныя надпісы, праўда толькі па-яўрэйску ў Янкеля Стайкоўскага.

Была ў Слоніме ў 1914 годзе і аптэка, дзе гандлявалі аптэкарскімі таварамі правізара Гродзенскага. У аптэцы знаходзіўся і хіміка-бактэрыялагічны кабінет у якім слонімцы маглі праверыць мачу, малако, кроў.

Напачатку XX стагоддзя актыўна дзейнічалі ў Слоніме і банкі. А было іх некалькі. Гэта слонімскае аддзяленне Беластоцкага камерцыйнага банка, слонімскае аддзяленне Руска-французскага камерцыйнага банка, а таксама кіраўніцтва таварыства Ўзаемнага крэдыту Слонімскіх землеўладальнікаў, Слонімскае таварыства сельскай гаспадаркі і г. д.

Без працы не былі ў той час і прыватная друкарня Гурвіча, і гадзіннікавы майстар Коган. Яўрэі і палякі-гандляры Кісель Язерскі, Дамантовіч, Радзішэўскі, Лазінскі гандлёвую сувязь падтрымлівалі і праз тэлефоны, якія былі ўстаноўлены ў іх крамах і на складах.

## Вуліца з гандлёвымі радамі, 1915 год

Мне падабаецца гэты стары фотаздымак Слоніма. Зроблены ён быў падчас Першай сусветнай вайны ў 1915 годзе. Справа каля гандлёвых радоў стаяць вазы, альбо да яўрэяў прыехалі вяскоўцы па тавар, альбо самі гандляры прывезлі ў свае крамы закупленыя харчовыя і прамысловыя тавары, якія прадаваліся ў гэтых крамах гандлёвых радоў. Замест іх тут сёння знаходзіцца скверык з танкам і помнікам Леніна. Цікава выглядала б сёння Першамайская вуліца, калі б захаваліся на ёй тыя старыя гандлёвыя рады.



Вуліца з гандлёвымі радамі, 1915 год

## Вуліцы Слоніма, 1916 год

Люблю старажытны Слонім. Люблю яго бачыць і ўяўляць такім, якім ён быў 100 і больш гадоў таму. Раблю гэта дзеля таго, каб яшчэ глыбей зразумець тое, што адбывалася тут у далёкія часы мінулага стагоддзя. Праўда, многае сёння безваротна страчана, але захаваліся старыя фотаздымкі. А на іх — мой родны Слонім — прыгожы, дзіўны, недагледжаны, яркі, самабытны, стамлёны, шчыры, цяжкі, але мой родны, дарагі і блізкі, дзе жылі мае прапрадзеды і дзяды, дзе цяпер жыву і я. Па гэтых вуліцах тады хадзілі мае продкі, гэтыя вуліцы захавалі іх сляды, пра іх напачатку XX стагоддзя, і пра тое, хто там жыў, якія там былі будынкі, можна распавядаць бясконца. Але лепш паглядзець на вуліцы Слоніма 1916 года. Менавіта, большасць з іх выглядалі так, як на гэтых фотаздымках 1916 года.







## Касцёл бернардзінцаў — Свята-Троіцкая царква, першая палова XX стагоддзя

Так выглядалі касцёл бернардзінцаў і Свята-Троіцкая царква напачатку XX стагоддзя ў Слоніме. Цяпер гэта Свята-Троіцкі сабор з пامененым купалам-цыбулінай. Спачатку на гэтым месцы быў драўляны касцёл, а ў 1639–1645 гадах яго замянілі на мураваны, а ў 1964 годзе, пасля задушанага царскімі войскамі паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, касцёл пераабсталявалі пад Троіцкую царкву. На здымках добра бачна і брама, на якой па-польску







напісана, што там за ёй знаходзілася староства. Брама не захавалася.

Казармы і гарнізонная царква, 1916 год





## Казармы і гарнізонная царква, 1916 год

Адзін з нямецкіх фатографаў зрабіў здымкі казармаў і гарнізоннай царквы ў 1916 годзе. Старыя казармы захаваліся да сённяшніх дзён. У іх сценах цяпер служаць вайскоўцы Слонімскай 11-й механізаванай брыгады. А вось той гарнізоннай (палкавой) царквы не захавалася. Здымкі былі зроблены зімой. Зверху добра відаць шырокая вуліца, якая вяла на Рышчыцы (цяпер Чырвонаармейская вуліца), і здымак вартавога насупраць казармаў. Казармы і царква не былі абгароджаны высокім плотам, як



Старыя яўрэі ў цэнтры Слоніма, 1922 год

сёння. Таму без дазволу праехаць і прайсці па вуліцы, дзе дыслацыраваліся вайскоўцы, тады было небяспечна. Вартавы мог адразу спыніць.

### Старыя яўрэі ў цэнтры Слоніма, 1922 год

Першая згадка пра яўрэяў у Слоніме адносіцца да 1551 года. У 1642 годзе ў Слоніме была пабудавана вялікая каменная сінагога ў стылі барока, якая захавалася да сённяшніх дзён. У 1766 годзе яўрэйскага насельніцтва ў Слоніме і ваколіцах налічвалася каля 1200 чалавек. А ў 1897 годзе іх на Слонімшчыне было ўжо каля 12 тысяч. У 1826 годзе ў Слоніме з'явілася першая тэкстыльная фабрыка, заснавана яўрэйскім прадпрымальнікам. На ёй працавалі 35 чалавек, у тым ліку 20 яўрэяў.

Напрыканцы XIX стагоддзя ў Слоніме працавалі каля 30 дробных фабрыкаў, амаль усе яны належалі яўрэям. У Слоніме перад Першай сусветнай вайной мелася сем сінагогаў, некалькі малітвенных дамоў і хедэраў, школа талмуд-тора, працавалі чатыры яўрэйскія вучылішчы.

А ў 1920-х гадах у Слоніме пражывалі каля 7 тысяч людзей яўрэйскай нацыянальнасці, а ў 1931 годзе — іх налічвалася каля 9 тысяч.

### Сям'я Мікульскіх у маёнтку Літвы, 1928 год

Сланімчанка Святлана Брайчук у «Слонімскім краі» напачатку 2019 года апублікавала цікавы даследчы артыкул пра лёс знакамітых Ордаў, якія маюць непасрэдныя адносіны і да Слонімшчыны. Матэрыял аўтарка аздобіла шматлікімі здымкамі, сярод якіх быў і гэты рэдкі, каштоўны здымак сям'і Мікульскіх у маёнтку Літва ў 1928 годзе (цяпер вёска ў Слонімскім раёне). Па здымку бачна, што не так і бедна жылі беларусы ў першай па-

Сям'я Мікульскіх у маёнтку Літвы, 1928 год



лове XX стагоддзя. Ды і ездзілі Мікульскія на такіх вось шыкоўных аўтамабілях.



## Амелія — родная сястра Гальяша Леўчыка, 1920-я гады

У верасні 1988 года паэт Сяргей Новік-Пяюн падараваў мне гэты здымак. На іх Сяргей Міхайлавіч напісаў так: «Хата ў горадзе Слоніме, у якой нарадзіўся 20 ліпеня 1880 года беларускі паэт-нашанівец Гальяш Леўчык (Ляўковіч). Хата стаяла на сучаснай Чырвонаармейскай вуліцы, №73, зараз не існуе. На адвароце арыгінала фотаздымку, з якога зроблена была гэта копія, рукою Гальяша Леўчыка напісана лацінкай «Радзіма хатка, дзе я нарадзіўся і сястра Амелія». Шкада толькі, што родная сястра Гальяша Леўчыка рана памерла ад сухотаў.



Народны дом у вёсцы Вострава, 1929 год

## Гурткі Грамады і ТБШ на Слонімшчыне ў 1920–1930-х гадах

У Заходняй Беларусі на тэрыторыі Слонімскага павета дзейнічалі 167 гурткоў Беларускай сялянска-работніцкай Грамады (БСРГ), куды ўваходзілі больш за 15 тысяч чалавек. Гурткоў Таварыства Беларускай Школы (ТБШ) налічвалася 54. Сябры ТБШ адкрывалі народныя дамы, хаты-чытальні, бібліятэкі, беларускія школы, ставілі спектаклі па п’есах беларускіх драматургаў.

## Слонімскае староства, 1920–1936 гады

У кляштары бернардзінцаў, дзе цяпер знаходзіцца інтэрнат Слонімскага медыцынскага каледжа, пры Польшчы месцілася Слонімскае староства. Сам будынак, які быў пабудаваны па праекту архітэктара Ханнеберга, пад адміністрацыйныя ўстановы быў перададзены яшчэ напачатку XX стагоддзя. Пры ўваходзі ў будынак у 1920–1939 гадах пра староства нагадвала шыльда. Прыгожай была і сама канферэнцыйная зала пасяджэнняў. У ёй не было ніякіх партрэтаў прэзідэнтаў, а толькі каталіцкі крыж, невялікія люстры, здымак Слоніма і дыплом. Усё гэта адлюстравана на гэтых старых здымках.





Слонімскае староства, 1920–1936 гады

## Крашэўскі з пячаткай ТБШ, 1930-я гады

У прыватнай бібліятэцы сланімчанкі Ніны Анішчык захоўваецца ўнікальная кніга беларускага і польскага пісьменніка, гісторыка і фальклараста Юзафа Крашэўскага (1812–1887). Яна называецца «Banita» (Czasy Batorego). Кніга была выдадзена ў Варшаве ў 1898 годзе.


BANITA

(Czasy Batorego)

przez

J. I. KRASZEWSKIEGO.

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ. ГУРТОК у м. АЗЕРНІЦА

WARSZAWA.

1898.

Унікальнасць кнігі не толькі ў тым, што яна была выдадзена больш за 100 гадоў і што гэта кніга менавіта Юзафа Крашэўскага. Але ўнікальнасць «Banity» і ў тым, што на ёй стаіць штамп «Таварыства Беларускай Школы. Гурток у м. Азярніца Слонімскага павета».

Сапраўды, у 1920–1930-х гадах у мястэчку Азярніца Слонімскага



павета быў самы актыўны і шматлюдны гурток Таварыства Беларускай Школы. Сябры гуртка нават мелі свой радыёпрыёмнік, па якім слухалі ўсе навіны. А таксама вялікую бібліятэку, у якой знаходзіліся і творы Юзафа Крашэўскага.

### Каля крамы ў Азярніцы, 1923 год

У такіх будынках знаходзіліся вясковыя крамы ў 1920-х гадах на Слонімшчыне. Гэта харчовая крама ў вёсцы Азярніца належала Хрысціянскаму кааператыву












Усходняя місія айцоў езуітаў у Альбярціне, 1924–1944 гады

спажыўцоў. Невядомы фатограф зрабіў некалькі здымкаў у краме і на ганку крамы. Сфатаграфавалася і сама прыгожая гандлярка з вяскоўцамі.

## Усходняя місія айцоў езуітаў у Альбярціне, 1924–1944 гады

24 ліпеня 1924 года віленскі біскуп Юры Матулевіч выдаў дэкрэт аб утварэнні Альбярцінскай парафіі славяна-візантыйскага абраду.

У траўні 1924 года ў Альбярціне з'явіліся першыя два айцы езуіты — а. Караль Буржуа і а. Міхал Маліноўскі, якія 4 лістапада заклалі пачатак усходняй місіі айцоў езуітаў сярод беларусаў.

Уладзіслаў Пуслоўскі, якому ў той час належаў Альбярцін, падтрымаў працу айцоў езуітаў, і ахвяраваў на гэтыя мэты свой будынак. Ён быў занядбаны, але езуіты абяцалі, што яны навядуць там парадак. Побач знаходзілася каплічка лацінскага абраду.





У 1925 годзе сакратар генерала ордэна езуітаў Уладзімір Пянткевіч стаў протаігуменам адкрытага там манастыра.

Альбярцін хутка атрымаў статус першага ў Заходняй Беларусі прыхода ўсходнеславянскага абраду, а ў 1926 годзе місія была зацверджана як навіцыят (установа для пад-

рыхтоўкі да ўступлення ў сябры манаскага ордэна), які заснаваў свой філіял у вёсцы Сынковічы, а Сынковіцкая крэпасць-царква стала цэнтрам прыхода ўсходнеславянскага абраду. У 1927–1931 гадах у Альбярцін прыбылі новыя групы навіцыяў, з ліку мясцовай беларускай і польскай моладзі; у канцы 1932 года тут прайшлі падрыхтоўку больш за 60 святароў, а манастыр у Альбярціне і філіял у Сынковічах мелі 25 місіянераў.

У 1942 годзе немцы спынілі езуіцкую дзейнасць у Альбярціне.

## Урадавая калонія, 1920-я гады

У 1920-я гады ў Слоніме была пабудавана вось гэта ўрадавая калонія. Архітэктарам і кіраўніком будаўнічых работ у Слоніме быў Вільгельм Ханнеберг. Вельмі добра, што гэты прыгожы архітэктурны будынак захаваўся да сённяшніх дзён. Ханнеберг па сваіх праектах пабудаваў у Слоніме яшчэ некалькі будынкаў для багатых сем'яў. Гэтыя будынкі, і ў тым ліку ўрадавая калонія,







знаходзіліся на сённяшніх вуліцы 17 верасня і Даватара. У будынку былой урадавай калоніі сёння знаходзіцца Слонімскі цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва (вуліца 17 верасня, 11).



Гандлёвая плошча, 1920-я гады



Слонімскія непакалянкі, 1920–1930-я гады

## Гандлёвая плошча, 1920-я гады

Плошча Леніна ў Слоніме ў 1920-я гады выглядала так, як на гэтым старым здымку. І ніхто таварыша Леніна тады ў Слоніме не ведаў і не чуў пра яго. Гэта пасля вайны на былой Гандлёвай плошчы ўзнік скверык і плошчу камуністы назвалі плошчай Леніна. Прыйдзе час і назва гэта знікне сама па сабе. Бо месца тут у Слоніме — гістарычнае. Сёння вакол скверыка знаходзяцца тэатр, музей, былая ратуша, дзе месціцца раённая бібліятэка імя Якуба Коласа, крамы. А 1 верасня 2019 года у скверыку паўстане сам Леў Сапега (1557–1633) — былы слонімскі староста і гетман Вялікага Княства Літоўскага.

## Слонімскія непакалянкі, 1920–1930-я гады

Здымак у Слоніме ў 1920–1930-х гадах зрабіў мясцовы фатограф Барыс Вайнштэйн. Усе гэтыя дзяўчаты ў вызначаны час наведалі фата-



Сцэна са спектакля «Снатворны мак», Дзвінск, 1922 год

майстэрню, каб разам сфатаграфавацца на памяць. А вучыліся яны на першым курсе ў Слонімскай семінарыі сясцёр непакалянак. Акрамя першакурсніц на ім сфатаграфаваны 7 выкладчыц. Прозвішчы іх невядомыя.



Рэжысёр Язэп Камаржынскі

## Першая пастаноўка п’есы слонімскага драматурга ў Дзвінску, 1922 год

У 1912 годзе ў Вільні асобнай кніжачкай свет пабачыла п’еса «Снатворны мак» драматурга са Слонімшчыны Кандрата Лейкі (1860–1921). Упершыню п’еса атрымала сцэнічнае жыццё ў Дзвінску ў 1922 годзе. Яе паставіў тэатральны рэжысёр і педагог Язэп Камаржынскі. Другую пастаноўку «Снатворнага маку» ажыццявіў рэжысёр Валянцін Ермаловіч на сцэне Краснапольскага народнага тэатра ў 1987 годзе.



Драматург і празаік Кандрат Лейка

## Слонімская кнігарня Абрамовіча, 1930-я гады

У сваёй хатняй бібліятэцы захоўваю невялікую кніжачку на польскай мове «Кароткая гісторыя Новага часу паводле найноўшых падручнікаў школьных», якую апрацаваў прафесар Антоні Валецкі. Гэта старое выданне 1930-х гадоў знаходзілася ў асабістай бібліятэцы беларускага спявака Міхася Забэйды-Суміцкага (1900–1981) у Празе. Некалькі гадоў назад кніжку даслаў мне паэт Сяргей Панізьнік. І даслаў яе невыпадкова. На кніжцы стаіць штамп на польскай мове







«Кнігарня Абрамовіча. Слонім. Міцкевіча, 1, прыватны дом». Гэтым кніжка для нас, слонімцаў, і цікавая. Значыць, да вайны ў Слоніме была кнігарня Абрамовіча, дзе і прадавалася гэта выданне. Магчыма, у Слоніме і набыў слынны спявак сабе гэту кніжку, бо ён некалькі разоў бываў у нашым горадзе і нават выступаў на сцэне Народнага дома, дзе цяпер знаходзіцца будынак драматычнага тэатра.

## Слонімцы на фотаздымках, 1930-я гады

Жыхарка Слоніма Алена Яфімік паказала свой сямейны стары альбом. У гэтым тоўстым альбоме за-







Слонімцы на фотаздымках, 1930-я гады

хоўваецца шмат розных здымкаў, пачынаючы з 1930-х гадоў. Гэта не толькі сямейныя фатаграфіі, але і фотаздымкі землякоў, сяброў, знаёмых. Вельмі шкада толькі, што не ўсе яны падпісаны з адваротных бакоў. Але ёсць шмат і падпісаных, стаяць штампы слонімскіх фатографаў. Мне спадабаліся некаторыя, асабліва фотаздымкі слонімцаў 1930-х гадоў. Адзін здымак быў зроблены 23 кастрычніка 1938 года. На ім жэніцца слонімец Мікалай Кадаўбік. Паглядзіце, якая прыгожая слонімская пара і якія на вяселлі гулялі тады прыгожыя хлопцы і дзяўчаты, апранутыя ў шыкоўныя касцюмы і плацці. Гледзячы на гэтых маладых слонімцаў, скажыце, калі ласка, калі мы



хадзілі ў лапцях і хадаках?.. Гэтыя фотаздымкі былі зроблены ў фотамайстэрні Барыса Вайнштэйна, якая знаходзілася на вуліцы Панятоўскага ў Слоніме.

На іншым здымку сфатаграфавана Марыя Карманава ў 1930-х гадах у фотамайстэрні Дзерачынскага ў Слоніме. Хто побач з Марыяй стаіць —невядома.

А таксама даваенны здымак юных слонімскіх непакалянак. З адваротнага боку здымка на польскай мове напісаны некаторыя прозвішчы. Сярод слонімскіх дзяўчынак ёсць — Шляга Клара, Мурашкевіч Рэгіна, Лепяшанка Геня, Гажыкуўна Міра, Скаўронская Ядзя, Скатніцкая Данка, Глінская Нюся, Пархута Вера, Навадворская Зоф'я, Ахніцкая Зося і Пянткоўская Рэгіна. Астатнія — невядомыя. Фотаздымак быў зроблены ў фотамайстэрні Барыса Вайнштэйна.

## Невядомые фота Барыса Вайнштэйна 1930-х гадоў

Стары фотаздымак мне прывёз і падараваў сябра з Ваўкавыску. Ён выкупіў здымак на адным з аўкцыёнаў. Прывёз і сказаў, што стары здымак быў зроблены ў Слоніме ў 1930-х гадах і шмат часу знаходзіўся ў прыватным архіве слонімскага пісьменніка Алега Лойкі (1931–2008).

Адразу падумаў, што на гэтым здымку ёсць маленькі хлопчык Алег Лойка, калі ж Алег Антонавіч зберагаў гэты здымак у сваім хатнім архіве. Тым больш, што фотаздымак на самай справе быў зроблены ў Слоніме мясцовым фатографам Барысам Вайнштэйнам. Ёсць штамп з адваротнага боку здымка.

Каб разгадаць гэту таямніцу і знайсці на здымку Алега Лойку — завітаў да сястры пісьменніка Людмілы Антонаўны Клімовіч, якая жыве ў Слоніме на Зялёнай вуліцы. Людміла Антонаўна ўзяла ў рукі фотаздымак, павелічальную лупу і доўга кожнага хлопчыка, дзяўчынку, настаўнікаў разглядала, а потым сказала, што яе маленькага брата тут няма. І, наогул, яна



Невядомые фота Барыса Вайнштэйна 1930-х гадоў

на старым фота нікога не пазнала. І пра месца, дзе здымак у Слоніме быў зроблены, таксама нічога канкрэтнага не сказала.

### Сінагога, 1920 год

Цяжка паверыць, што 100 гадоў таму слонімская сінагога выглядала так, як на гэтым здымку. Цэлыя дах, сцены, вокны, дзверы — усё дагледжана, пафарбавана і пабелена. Сінагога была абгароджана драўляным плотам. Эх, вярнуць бы самы стары (1642) і самы прыгожы помнік у Слоніме, які быў збудаваны ў сістэме абарончых збудаванняў у стылі барока. Вярнуць, каб горад наш яшчэ больш здзіўляў архітэктурай землякоў і турыстаў.



### Шчаслівы слонімскі яўрэй, 1935–1938 гады

Гэты здымак у Слоніме зрабіў вядомы амерыканскі фатограф Раман Вішняк (1897–1990), які ў складзе дабрачыннай арганізацыі «Джойнт» у 1930-х гадах наведаў Усходнюю Еўропу, у тым ліку і Слонім. У старажытным Слоніме Раман Вішняк фатаграфаваў яў-





Альбярцінскія каталікі, 1936 год

рэяў: іх жыццё, быт, постаці, захапленні. У аб'ектыў Вішняка трапіў і гэты шчаслівы слонімскі яўрэй у самым цэнтры горада.

### Альбярцінскія каталікі, 1936 год

Здымак каталікоў з Альбярціна быў зроблены пры драўлянай капліцы ў 1936 годзе. На здымку вядомы толькі ксёндз Слівінскі і сястра Тэадора. Астатнія вернікі невядомыя. Капліца да сённяшніх дзён не захавалася.

### Садоўнік Пуслоўскіх, 1930-я гады

Пуслоўскія ў Альбярціне мелі вялікі сад. Гэты сад даглядаў Эдмунд Брэнэк. Звестак пра яго захавалася мала. Вядома толькі, што пан Брэнэк не толькі даглядаў сад, а саджаў новыя саджанцы, закупляў іх у Еўропе, праводзіў розныя до-



следы, эксперыменты з саджанцамі. І сад у Пуслоўскіх быў адным з лепшых ва Ўсходняй Еўропе.

### Янка Купала на «Шаўрале» заязджаў да Гальяша Леўчыка ў Слонім, 1939 год

Да беларускага пісьменніка, калекцыянера, музыканта і мастака Гальяша Леўчыка (1880–1944) у Слонім прыязджалі многія бе-





ларускія дзеячы. Гасцявалі ў яго хатцы мастак Язэп Драздовіч, пісьменніца і грамадская актывістка Зоська Верас, фальклярыст і кампазітар Антон Грыневіч, пісьменнік Міхась Лынькоў, каталіцкі святар Адам Станкевіч і нават аднойчы заглянуў і сам Янка Купала. А было гэта 14 лістапада 1939 года. Пясняр вяртаўся з Беластока з Народнага сходу Заходняй Беларусі. Па дарозе на Менск ён заехаў у Слонім, бо ведаў, што тут жыве былы нашаніўскі аўтар Гальяш Леўчык. На сваім «Шаўрале» Янка Купала пад'ехаў да хаткі паэта. Воклічы радасці вырваліся з грудзей старых паэтаў. Сябры шчыра абняліся і Леўчык запрасіў Янку Купалу ў сваю маленькую хатку. Яна стаяла на вуліцы 1 траўня (цяпер Чырвонаармейская вуліца), дзе быў Слонімскі аўтарамонтны завод, і якога зараз ужо няма. А хатка Леўчыка прастаяла да пачатку 1960-х гадоў, але завод пашыралі і гістарычную хатку знішчылі.

Хатка, у якую ўвайшоў Янка Купала, нагадвала маленькую залу музея. Усе сцены былі завешаны малюнкамі і фотаздымкамі. Шмат на паліцах стаяла кніг і ляжала рукапісаў. Сябры прыселі на ўслончык, які стаяў каля вакна. «Ну, як жывеш, Гальяш?» — спытаў Купала. «Як жыву?.. Бульба ёсць, запалкі ёсць… Вось так і жыву! А ты?..» — запытаў Леўчык. «Вось бачыш — ордэн далі, дачу далі, «Шаўрале» падаравалі, не так, як ты. Прыедзеш да мяне, сам пабачыш», — пахваліўся Янка Купала…

Пасля гутаркі, пясняр запрасіў Гальяша Леўчыка ў «Першы беларускі рэстаран», які знаходзіўся ў цэнтры Слоніма. Яны паабедалі разам і развіталіся. Больш у жыцці паэтам сустрэцца не давялося. Эх, знайсці хаця б сёння той услончык, дзе ў гэтай хатцы сядзелі Янка Купала і Гальяш Леўчык!..

А вось купалаўскі аўтамабіль «Шаўрале» Chevrolet Master Deluxe GA быў выпушчаны ў 1937 годзе. У 2010 годзе аўтамабіль быў адрэстаўраваны і цяпер знаходзіцца ў філіяле Дзяржаўнага літаратурнага музея імя Янкі Купалы ў Ляўках. На ім Янку Купала і прыязджаў у Слонім.



Дзеці з Вялікай Кракоткі, пачатак 1930-х гадоў



Антон Неманцэвіч з вернікамі і святарамі, 1935 год

### Дзеці з Вялікай Кракоткі, пачатак 1930-х гадоў

Ужо не памятаю, як у мой архіў трапіў гэты фотаздымак. Ён быў зроблены напачатку 1930-х гадоў у вёсцы Вялікая Кракотка каля мясцовай школы. У сонечны цёплы дзень невядомы нам фатограф (на адваротным баку здымка лацінкай напісана: Wyk. fotoamator A. Z. W. Krokotka) сабраў дзяцей, каб зрабіць здымак і пакінуць яго на памяць нашчадкам. Як склаўся лёс гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак? Невядома…

### Антон Неманцэвіч з вернікамі і святарамі, 1935 год

4 лістапада 1924 года быў закладзены пачатак усходняй місіі айцоў езуітаў сярод беларусаў у Альбярціне. Адным з актыўных

святароў быў Антон Неманцэвіч, які выдаваў часопіс «Да злучэння».

Сярод святароў на гэтым здымку знаёмая толькі адна постаць — гэта экзарх Антон Неманцэвіч, які сядзіць у трэцім радзе другі справа. У 1943 годзе яго не стала ў акупіраваным гітлераўцамі Мінску.

### Харцэры з Альбярціна, 1938 год

Юныя прыгажуні з Альбярціна сфатаграфаваліся разам у 1938 годзе. Яны ўваходзілі ў Саюз польскіх харцэраў. Да вайны гэтая польская нацыянальная піянерская арганізацыя налічвала каля 200 тысяч чалавек. Актыўны ўдзел у харцэрскім руху прымалі хлопчыкі і дзяўчынкі са Слоніма і Альбярціна. Некалькі юных харцэраў усміхаюцца на гэтым старым здымку.



### Вучні 6 класа Азярніцкай школы, 1938 год

Не так часта ў тыя 1930-я гады фатагравваліся вучні і настаўнікі на памяць. Але вучням і настаўнікам Азярніцкай школы гэта пашанцавала. Здымак быў зроблены 21 чэрвеня 1938 года.




Вучні 6 класа Азярніцкай школы, 1938 год

### Сабачыя жэтоны, 1929 і 1933 гады



Пры Польшчы (1920–1939-гады) кожная сям'я павінна была рэгістраваць сваіх хатніх сабак. Ім выдаваліся спецыяльныя жэтоны. Сабакі павінны іх насіць на шыі. Магчыма, такія жэтоны выдавалі толькі для паляўнічых сабак. Так выглядалі слонімскія жэтоны для сабак у 1929 і 1933 гадах.

### 17 верасня 1939 года

17 верасня 1939 года ў Слонім увайшлі войскі Чырвонай Арміі. Палякі пакінулі горад над Шчарай. Гадоў дзесяць таму ў польскім Уроцлаве сустрэў старога інтэлігентнага слонімца. «Мне было дзесяць гадоў, я стаяў каля капліччкі святога Дамініка, а па вуліцы ехалі чырвонаармейцы на конях і гнулі рускія маты, якіх мы ніколі ў Слоніме не чулі. Гэтыя коні мне ўсё жыццё стаяць перад вачыма і чуецца іх незразумелая нам мова», — успомніў стары слонімец і заплакаў. Пасля вайны ён так ніколі і не пабываў у родным горадзе.



Гараджане гутараць з чырвонаармейцамі ў Слоніме. 80 гадоў таму

17 верасня ў Слонім прыйшла савецкая ўлада, а 18 верасня ўжо пачаліся рэпрэсіі: адных расстрэльвалі, іншых ссылалі на Салаўкі…

### Невядомы партрэт Францішка Скарыны, намаляваны Гальяшом Леўчыкам

У прыватным архіве літаратуразнаўца і краязнаўца Міхася Казлоўскага з Маладзечна захоўваецца





Немцы ўваходзяць у Новадзявяткавічы, 1941 год

ўнікальны і раней нікому невядомы партрэт беларускага асветніка і першадрукара Францішка Скарыны. Гэты партрэт быў намаляваны слонімскім паэтам і мастаком Гальяшом Леўчыкам (1880–1944) напачатку ХХ стагоддзя. Партрэт Скарыны мастака Леўчыка Міхасю Казлоўскаму падараваў некалі энцыклапедыст і літаратуразнавец Янка Саламевіч (1938–2012).

Дарэчы, Янка Саламевіч даследаваў творчасць Гальяша Леўчыка і выдаў да яго 100-годдзя невялікую кнігу выбраных твораў «Доля і хлеб» (Мн., 1980). Відаць тады і трапіў да Саламевіча гэты партрэт першадрукара. Як мастак Гальяш Леўчык мала даследаваны, і захавалася не так і шмат яго твораў. Вядома толькі, што свой першы зборнік вершаў «Чыжык беларускі», які пабачыў свет у 1912 годзе ў Вільні, Леўчык сам афармляў.

## Немцы ўваходзяць у Новадзявяткавічы, 1941 год

Рэдкі здымак. Немцы на конях вольна ўваходзяць у вёску Новадзявяткавічы. Пачатак вайны. Наперадзе відаць капліца касцёла. Цэлая і непашкоджаная яшчэ.

## Слонімскі падпольны друк, 1943–1944 гады

Падчас Другой сусветнай вайны на Слонімшчыне існаваў падпольны друк. Ён быў створаны савецкімі партызанамі. Восенню 1943 года аднавілася газета «Вольная праца». Гэта было падпольнае выдан-



ВОЛЬНАЯ ПРАЦА


БАРАЦЬБА
ОРГАН СЛОНІМСКАГА АНТЫФАШЫСЦКАГА КАМІТЭТА




не малога фармату і друкавалася ў лесе «Воўчыя норы» у партызанскай друкарні. Газета «Барацьба» таксама была надрукавана ў лесе. Усяго выйшла два нумары. Рэдактарам «Барацьбы» быў слонімскі паэт Анатоль Іверс.

### Яўрэйскі хлопчык са Слоніма, 1941 год

Як склаўся лёс гэтага яўрэйскага хлопчыка са Слоніма, здымак якога быў зроблены напярэдадні Другой сусветнай вайны. Сфатаграфавалі хлопчыка каля Спаса-Праабражэнскага сабора. Наперадзе ў Слоніме падчас акупацыі былі і гета, і расстрэл яўрэяў на Пятралевіцкай гары, і іншыя яўрэйскія пагромы.




### Баі на станцыі Азярніца, 1941 год

Гарачыя баі адбываліся на станцыі Азярніца падчас Другой сусветнай вайны. Немцы кантралявалі станцыю, а таксама гаспадарылі ў самой вёсцы. Дарэчы, да вайны ў Азярніцы пражывалі 423 жыхары. У час вайны ў ліпені 1941 года гітлераўцы спалілі 40 дамоў, загубілі 17 жыхароў.





Баі на станцыі Азярніца, 1941 год

## Слонімская мячэць

Такая мячэць была ў Слоніме да лета 1944 года. Яна знаходзілася на вуліцы Татарскай (цяпер вуліца Кірава). Але падчас адступлення немцаў і наступлення савецкіх войск мячэць згарэла ў агні. Ці то ў яе трапіла бомба, ці то яе падпалілі знарок. Мячэць была знішчана. Але гэты храм сёння вельмі ўпрыгожыў бы наш канфесійны Слонім. Шкада…





Слонімская мячэць у 1943 і 1944-х гадах



Слонімскія татары каля мячэці, 1930-я гады



Вуліца Парадная, 1943 год

## Вуліца Парадная, 1943 год

Здымак Параднай вуліцы ў Слоніме ў 1943 годзе зрабіў славуты слонімскі фатограф Юзаф Шыманчык (1909–2003). Як я не памыляюся, цяпер гэта Першамайская вуліца. «Von Appen» — гэта нямецкі кніжны ілюстратар, у гонар якога названы многія фірмы і сёння. А дадатак GmbH — гэта значыць, што крама прыватная ці нейкай фірмы. Насупраць знаходзілася і сама фотамайстэрня Шыманчыка, якая падчас адступлення немцаў была спалена. Згарэла сотні слонімскіх негатываў і фотаздымкаў. Але сёе-тое і засталося.

## На этнаграфічнай выставе ў Народным доме, 1943 год

Дырэктар Слонімскага Народнага дома Алесь Асіпчык (1909–1990) і хлопчык Саша Талерчык з Парэчча адлюстраваны на гэтым здымку. Ён быў зроблены ў 1943 годзе на этнаграфічнай выставе ў Народным доме.

Так склаўся лёс, што Алесь Асіпчык быў жанаты на цётцы Сашы Талерчыка Веры Селівончык. Але вайна, а потым сталінскія рэпрэсіі, іх назаўсёды разлучылі. Алесь Асіпчык пасля вайны жыў у Саўт-Рыверы ў ЗША. А Вера Селівончык жыла ў Парэччы, дзе і памерла. Саша Талерчык (Аляксандр Сямёнавіч), жыў і памёр у Гродне ў 2016 годзе.



Аляксандр Талерчык напісаў цудоўную кнігу пра вёску Парэчча, добра апісаў паўстанне 1830–1831 гадоў пад кіраўніцтвам Міхала Валовіча.

## Слонімскія бібліятэкі, знішчаныя падчас вайны

У 1939 годзе ў Слоніме пачала арганізоўвацца цэнтральная бібліятэка і бібліятэка пры парткабінеце, дзе любы жадаючы мог узяць бясплатна і пачытаць кнігу. У чэрвені 1940 года Слонімская цэнтральная бібліятэка налічвала больш за 10 тысяч кніг. У ёй знаходзіліся кнігі на 16 мовах — на беларускай, рускай, іўрыце, польскай і іншых. Бібліятэка мела 2400 чытачоў, сярод якіх было шмат школьнікаў.

Найвялікшай праблемай для бібліятэкі з'яўлялася адсутнасць памяшкання. Многія кнігі ляжалі зваленыя ў кучу. У бібліятэцы сталі вялікія чэргі па кнігі. Газеты, якія выпісваліся ў бібліятэку, ляжалі непрачытаныя, бо адсутнічала чытальная зала.



Лепш выглядала бібліятэка пры парткабінеце. У ёй налічвалася больш за 2 тысячы кніг. Былі там творы Карла Маркса, Леніна, Сталіна, 600 асобнікаў «Кароткага курса гісторыі ВЫКП (б), кнігі Астроўскага, Горкага, Талстога, шмат сельскагаспадарчай літаратуры. У парткабінеце знаходзілася і вялікая чытальная зала, на сталах ляжалі свежыя газеты і часопісы, быў устаноўлены радыёпрыёмнік, на сценах віселі плакаты, лозунгі і дыяграмы.

У 1940 годзе бібліятэку парткабінета наведвала больш за 100 чытачоў. Напрыклад, работнік Слонімскага банку Мельнік за месяц прачытаў больш за 20 кніг.

У ліпені 1940 года была арганізавана і Слонімская раённая бібліятэка. Абедзве бібліятэкі знаходзіліся у цэнтры Слоніма на Першамайскай вуліцы, 3. Падчас Другой сусветнай вайны фонд бібліятэк у Слоніме быў разрабаваны.

У Слонімскай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа захоўваюцца два акты ад 30 верасня 1944 года, складзеныя ў Слоніме заснавальнікам Слонімскага краязнаўчага музея Язэпам Стаброўскім і супрацоўнікам музея Сяргеем Новікам-Пеюном. Акт падпісалі члены камісіі ў складзе супрацоўнікаў гарсавета інспектара народнай адукацыі Рудэнкі Дзмітрыя Рыгоравіча, электраманцёра Жылінскага Мікалая Аляксандравіча і бухгалтара канторы сувязі Люля Станіслава Міхайлавіча з удзелам экспертаў тав. Новіка Сяргея Міхайлавіча і дырэктара Слонімскага гісторыка-краязнаўчага музея Стаброўскага Іосіфа Іосіфавіча склалі пастаянныя акты пра шкоду, якая была нанесена нямецка-фашысцкімі захопнікамі і іх саўдзельнікамі Слонімскай цэнтральнай бібліятэцы, што знаходзілася на Першамайскай вуліцы, 3.

Будынак бібліятэкі поўнасцю быў спалены. Будынак па тым часе каштаваў 10000 рублёў.

Лямпы вісячыя з фарфоравымі абажурамі — 1 штука, кошт 20 рублёў.

Лямпы настольныя нікелевыя з фарфорамі абажурамі — 2 штукі, кошт 300 рублёў.

Пісьменныя сталы — 2 штукі, кошт 300 рублёў.

Крэслы венскія — 10 штук, кошт 250 рублёў

Крэслы простыя — 10 штук, кошт 150 рублёў.

Сталы для чытальні — 1 штука, кошт 100 рублёў.

Сталоў-шафаў — 1 штука, кошт 200 рублёў.

Шафаў рабочых — 2 штукі, кошт 700 рублёў.

Шафаў кніжных — 2 штукі, кошт 200 рублёў.

Лесвіцы бібліятэкі — 2 штукі, кошт 240 рублёў

Адна шафа-каталог з ясеню, паліраваная з нікелевымі ручкамі , кошт 500 рублёў.

Стэлажы на 12 тысяч кніг коштам 1000 рублёў.

Пішучая машынка «Renington» (малая) — 1 штука, кошт 2000 рублёў

Шафа-выстава — 1 штука, кошт 400 рублёў.

Табліца-выстава — 1 штука, кошт 250 рублёў.

Партрэты кіраўнікоў у рамках (мастацкія працы) — 11 штук, кошт 2387 рублёў

Партрэты класікаў літаратуры (рускай, беларускай, украінскай , польскай) — 12 штук, кошт 600 рублёў.

Фіранкі цюлевыя з карнізамі — 10 штук, кошт 2500 рублёў.

Прыборы для пісьма — 13 штук, кошт 1560 рублёў.

Картатэка — 2 штукі, кошт 400 рублёў.

Лічыльнік — 1 штука, кошт 27, 47 рублёў.

Мапы геаграфічныя і гістарычныя — 40 штук, кошт 1000 рублёў.

Вялікі глобус — 2 штукі, кошт 700 рублёў.

Карціны з рускай гісторыі ў рамках — 11 штук, кошт 440 рублёў.

Кнігі на рускай, беларускай, украінскай, польскай, яўрэйскай, французскай, нямецкай, англійскай, шведскай, італьянскай, нарвежскай, іспанскай, венгерскай, балгарскай, славацкай, румынскай, латышскай, літоўскай і іншых мовах. У тым ліку — рэдкіх і старых кніг, а таксама рукапісных у скураных пераплётах на пергаменце з былых палацаў графаў Гутэр-Чапскага, Слізеняў і Пуслоўскіх коштам 75000 рублёў.

А вось якая шкода была нанесена вайной Слонімскай раённая бібліятэцы.

Будынак бібліятэкі поўнасцю быў спалены. Будынак па тым часе каштаваў 20000 рублёў.

Лямпы вісячыя з фарфоравымі абажурамі — 20 штук, кошт 400 рублёў.

Лямпы настольныя нікелевыя з фарфорамі абажурамі — 3 штукі, кошт 450 рублёў.

Пісьменныя сталы — 4 штукі, кошт 1200 рублёў.

Крэслы венскія — 25 штук, кошт 625 рублёў

Крэслы простыя — 60 штук, кошт 900 рублёў.

Сталы для чытальні — 10 штук, кошт 1000 рублёў.

Сталоў-шафаў — 3 штукі, кошт 600 рублёў.

Шафаў рабочых — 7 штук, кошт 700 рублёў.

Шафаў кніжных — 8 штук, кошт 3200 рублёў.

Лесвіцы бібліятэкі — 6 штук, кошт 720 рублёў

Шафы-каталогі з ясеню, паліраваныя з нікелевымі ручкамі —2 штукі, кошт 1000 рублёў.

Стэлажы на 75 тысяч кніг коштам 5000 рублёў.

Пішучая машынка «Underwold» — 1 штука, кошт 3400 рублёў

Шафа-выстава — 1 штука, кошт 400 рублёў.

Табліца-выстава — 1 штука, кошт 250 рублёў.

Партрэты кіраўнікоў у рамках (мастацкія працы) — 11 штук, кошт 2387 рублёў

Партрэты класікаў літаратуры (рускай, беларускай, украінскай, польскай) — 12 штук, кошт 600 рублёў.

Фіранкі цюлевыя з карнізамі — 2 штукі, кошт 500 рублёў.

Прыборы для пісьма — 2 штук, кошт 240 рублёў.

Картатэка — 1 штука, кошт 200 рублёў.

Лічыльнік — 1 штука, кошт 27, 47 рублёў.

Мапы геаграфічныя і гістарычныя — 18 штук, кошт 450 рублёў.

Вялікі глобус — коштам 350 рублёў.

Карціны з рускай гісторыі ў рамках — 11 штук, кошт 440 рублёў.

Кнігі на рускай, беларускай, украінскай, польскай, яўрэйскай, французскай і нямецкай мовах коштам 12000 рублёў.

Усе акты пісаў Язэп Стаброўскі. Пад актамі стаяць подпісы Язэпа Стаброўскага і Сяргея Новіка-Пеюна.

### Слонімскі вальс «Над Шчарай», 1943 год

Слонімскі вальс «Над Шчарай» напісаў паэт Сяргей Новік-Пяюн (1906–1994). З 1931 года ён жыў у Слоніме пад наглядам паліцыі. Разам з жонкай Людмілай у 1938–1939 гадах выдаваў польскамоўную газету «Gazeta Słonimska». У 1939–1940 гадах працаваў у сістэме народнай адукацыі інспектарам Слонімскага раённага аддзела народнай асветы, потым дырэктарам Слонімскага раённага краязнаўчага музея (1940-1941). У чэрвені 1941 года выратаваў экспанаты музея разам з Язэпам Стаброўскім, схаваўшы іх на ўскраіне горада.

Пасля вайны працаваў дырэктарам Слонімскага музея. Быў рэпрэсіраваны. У 1959 годзе вярнуўся ў Беларусь. Жыў у Слоніме, Нясвіжы, Менску. Я добра сябраваў з Сяргеем




Слонімскі вальс «Над Шчарай», 1943 год

Міхайлавічам, шмат разоў сустрэўся з ім у Слоніме, бываў у яго менскай кватэры на вуліцы Купрыянава. У мяне захоўваюцца ад яго лісты, паштоўкі, газеты і часопісы. А неяк аднойчы ён мне падараваў тэкст і ноты свайго слонімскага вальса «Над Шчарай», які ён напісаў ажно ў 1943 годзе.

## Трагічны лёс Ядвігі Сарачынскай



Ядвіга Сарачынская

Пра слонімскую прыгажуню і перакладчыцу Ядвігу Сарачынскую (па мужу Адамчук) звестак захавалася мала. Вядома толькі, што яна нарадзілася ў 1926 годзе. Падчас вайны жыла ў Слоніме, была кіраўніцай Саюза беларускай моладзі ў 1943–1944 гадах у Слонімскай акрузе. Напачатку ліпеня 1944 года Ядвіга эвакуіравалася з групай слонімцаў у горад Заўльгаў. Пасля капітуляцыі гітлераўскай Германіі працавала ў французскай акупацыйнай адміністрацыі ў Германіі. Потым у 1949 годзе выйшла замуж і з мужам пераехала ў Аўстралію. Жыла ў горадзе Перт, працавала ў мясцовым аэрапорце. Памерла ад родаў напачатку 1960-х гадоў.

Ядвіга Сарачынская (сядзіць у першым радзе крайняя справа) з сяброўкамі. Слонім, 1943 год



Слонім, пасля заканчэння вайны, 1944 год



### Слонім, пасля заканчэння вайны, 1944 год

Цэнтр Слоніма пасля заканчэння вайны. Адным будынкам пашанцавала, іншым — не. Як, напрыклад, на былой Гандлёвай плошчы, цяпер — плошча Леніна.

### Мастак Антон Карніцкі (1912–1944)

Антон Карніцкі (1912–1944) — выдатны беларускі мастак і музыкант. Жыў у Слоніме. Вучыўся ў Акадэміі мастацтваў у Варшаве. Пасля смерці мастака, у Слоніме ў 1944 годзе была наладжана яго персанальная выстава. Антон Карніцкі на сваіх палотнах адлюстроў-



Антон Карніцкі. Хата ў Рышчыцах, 1943 год



Антон Карніцкі. Аўтапартрэт

ваў родную Слонімшчыну — яе хаты, прыроду, людзей. Працаваў алейнымі фарбамі і алоўкам. Падчас Другой сусветнай вайны немцы вывезлі ў Германію 180 ягоных карцін. Некалькі твораў мастака захоўваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.



Карціны Антона Карніцкага ў Слонімскім краязнаўчым музеі



Антон Карніцкі. Рынак у Слоніме, 1943 год



### Каштоўнасці, якія зніклі са Слонімскага музея падчас вайны, 1941–1944 гады



На працягу чатырох ваенных гадоў са Слонімскага краязнаўчага музея зніклі:

1. Шахматная дошка з дзвюх палавінак з чорнага дрэва і слановай косці гетмана Льва Сапегі (XVI ст.).

2. Англійскі гадзіннікавы механізм без аправы (XVII ст.).

3. Нападлогавы гадзіннік XVIII ст.

4. Вялікі круглы срэбны англійскі гадзіннік у трайным срэбным куверце са срэбным ланцужком (XVIII ст.).

5. Бронзавы медаль з выяваю Хрыста.

6. Статуэтка з дрэва вялебнага Ніла Сорскага.

7. Пудзілы птушак і звяроў.

8. Калекцыі манет розных дзяржаў з пачатку першага стагоддзя. У тым ліку паўкілаграма срэбных манет.

9. Беларускія народныя касцюмы, бялізна, дываны, паясы, абсталяванне беларускай хаткі і г.д.

10. Серыя срэбных, бронзавых і пазалочаных значкоў, медалёў, крыжыкаў, ордэнаў розных дзяржаў.

11. Сем партрэтаў і дваццаць тры карціны (масла) на палатне ў пазалочаных рамах галандскіх, рускіх і польскіх мастакоў XVI стагоддзя.

12. 514 кніг старых выданняў на рускай, польскай, лацінскай, французскай, беларускай, шведскай, нямецкай і іншых мовах.

13. Сімфаньета — музычная скрынка з жалезнымі пласцінкамі IX стагоддзя.

14. Старадаўні фарфоравы і срэбны посуд і крыштальныя келіхі XVII стагоддзя, якімі карысталіся царскія, княскія, графскія і іншыя вяльможы.

15. Камплект грамафонных пласцінак з дакладам Сталіна аб праекце Канстытуцыі СССР.

16. Срэбны медаль-манета 138 года да нашай эры з надпісам на старажытнаяўрэйскай мове часоў Сімона Макавея.

17. Рознакаляровы пояс з конскіх валасоў, які выткаў на працягу шасці гадоў палітасуджаны польскай турмы М. Галаўко.

18. Бронзавы абразок з выяваю распятага Хрыста (XVI ст.).

19. 18 штук вырабаў з мастацкай фініфці растоўскай работы Назарава.

20. Каўказскі «кубінскі» дыван памерам 4 х 1,3 м і вагою 24 кг.

21. Старадаўнія скрыпка і патэфон.

22. 200 пласцінак з галасамі вядомых рускіх, італьянскіх, французскіх, польскіх, яўрэйскіх і іншых спевакоў.

23. 372 кнігі рускіх класікаў і акадэмічныя выданні ў скураных пераплётах.

24. Навуковыя працы Язэпа Стаброўскага: калекцыя фотаздымкаў курганоў, альбом з малюнкамі (каля 3 000 штук), рукапісныя сшыткі па археалогіі, якія пісаліся і збіраліся на працягу 52 гадоў.

25. Венскі мікраскоп Рэйхерта з двума аб'ектывамі ў паліраванай скрынцы з чырвонага дрэва і з калекцыяй прэпаратаў да яго.

26. Фотаапарат з чырвонага дрэва з аб'ектывам, імгненным затворам, памерам 18×24 см, у футляры.

27. Камплект інструментаў цяслярскіх і сталярскіх.

28. 7 венскіх крэслаў з гнутага ясеню.

29. Канапа двайная са сценкамі.

30. Столік ясянёвы паліраваны.

31. Дубовы пісьмовы стол з дзвюма тумбачкамі.

32. 5 шкляных шафаў у ясянёвых апраравах.

33. 14 княскіх і графскіх пячатак з XVII ст.

34. Амулет егіпецкі.

35. Пісьмовы старадаўні прыбор з белага мармуру з бронзаю.

36. Старадаўняя настольная лямпа з фарфоравым абажурам і іншыя экспанаты.

### Радзільны дом, 1940–1970-я гады

Вуліца Замкавая (цяпер Камсамольская) — адна са старажытных вуліц Слоніма. Да сённяшніх дзён захаваўся на ёй асабняк з калонамі, пабудаваны ў першай палове XIX стагоддзя. Пасля Другой сусветнай вайны ў гэтым прыгожым



будынку быў радзільны дом, дзе жанчыны Слонімшчыны нараджалі немаўлят. Усе тыя, хто нарадзіўся ў 1940–1970-х гадах, з'яўляліся на свет менавіта ў гэтым будынку. Пацвярджэннем з'яўляецца і стары здымак, які сёння публікую.

### Знакамітыя слонімцы, расстраляныя ў Курапатах

У праваслаўных вернікаў праходзіў тыдзень пакланення Святому Крыжу. Улада «пакланілася» крыжам у Курапатах, знішчыла іх 4 красавіка 2019 года, як знішчыў НКУС там тысячы беларусаў і людзей іншых нацыянальнасцей у 1930-х-1941-м гадах. Проста жах!..

У 1937 годзе ў Курапатах быў расстраляны слонімскі крытык і публіцыст Хацкель Дунец (1897–1937). Пісаў на ідыш. Разглядаючы



творчасць яўрэйскіх пісьменнікаў ніколі не мінаў творчасць беларускіх літаратараў. Быў рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва», працаваў намеснікам наркама асветы Беларусі…

У 1938 годзе 5 жніўня ў Курапатах быў пазбаўлены жыцця і Мітрафан Тамільчык (1896–1938) з вёскі Хадзявічы Слонімскага раёна. Ён скончыў Белдзяржуніверсітэт, быў аспірантам Беларускай Акадэміі Навук. А з 1936 года працаваў выкладчыкам Беларускага політэхнічнага інстытута. НКУС



расстраляў таленавітага фізіка. Гэта толькі два прыклады. А такіх людзей з усёй Беларусі — сотні тысяч ляжаць у Курапатах, дзе стаялі крыжы і іх за дзень адтуль звезлі. Як будуць сёння і заўтра жыць тыя, хто даваў загад і тыя, хто крыжы знішчаў?..

### Жыхары вёскі Азярніца каля храма, 1944 год

Нехта з жыхароў вёскі Азярніца сфатаграфаваў сваіх землякоў перад самым заканчэннем вайны — 23 красавіка 1944 года. Здымак быў зроблены каля храма святціцеля Мікалая. Храм у Азярніцы пабудавалі ў 1867 годзе, якраз тады, калі было затушана паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.

Вяскоўцы апранутыя хто ў чым. А тыя, якія вяртаюцца з храма, у самых найлепшых паліто, спадніцах і хустках. Той час спагадлівым не быў.

### Пажарная каманда, 1948 год

Адразу пасля Другой сусветнай вайны на Гарадзеншчыне пачалі стварацца пажарныя каманды.



Жыхары вёскі Азярніца каля храма, 1944 год



Пажарная каманда, 1948 год



Напрыканцы 1945 года ў Беларусі ўжо дзейнічалі 184 пажарныя каманды. На ўзбраенні ў іх знаходзілася 130 адзінак тэхнікі. Пажарная каманда была створана і ў Слоніме. Яна знаходзілася там, дзе і цяпер. На старых здымках добра бачны сам будынак Слонімскай гарадской пажарнай каманды і тэхнічнае ўзбраенне яе перад фасадам.

## Усеславянскі камітэт дапамагаў Вялікакракоцкай сельскай бібліятэцы, 1947 год

У сваім хатнім архіве знайшоў цікавы дакумент. Гэта ліст з Масквы са Усеславянскага камітэта за 1947 год. Яго падпісалі адказны сакратар Усеславянскага камітэта гвардыі-палкоўнік Мачалаў і рэдактар камітэта Майбарада. Ліст быў ад-




Аляксандр Жыткевіч у Вялікай Кракотцы сустракае гасцей на 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы, 1972 год

расаваны Аляксандру Жыткевічу, які інвалідам вярнуўся з Другой сусветнай вайны і з 1947 года быў загадчыкам Вялікакракоцкай сельскай бібліятэкі імя Янкі Купалы. На жаль, гістарычныя бібліятэка, якая была створана ў 1927 годзе, праіснавала толькі 80 гадоў. Цяпер яе няма. Але на працягу гэтых гадоў сельская бібліятэка ў Вялікай Кракотцы была беларускім культурным і нацыянальным асяродкам не толькі на Слонімшчыне, але і ва ўсёй Беларусі. Бібліятэка з'яўлялася першай культурнай установай ў Беларусі, якой было нададзена імя беларускага песняра Янкі Купалы. Сюды на працягу дзясяткі гадоў прыязджалі амаль усе пісьменнікі з Беларусі, некалькі разоў была жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, жонка Валянціна Таўлая Лідзія Сяргееўна, пісьменнікі з Расіі і Украіны.

Пасля вайны ў бібліятэку пастаянна дасылаліся кнігі, пісьмы, паштоўкі, падарункі. Сярод усіх лістоў — было і паведамленне са Усеславянскага камітэта на імя Аляксандра Жыткевіча. У пісьме паведамлялася наступнае:

Паважаны тав. Жыткевіч!

Па просьбе Рыгора Раманавіча Акулевіча мы высылаем для Вашай бібліятэкі імя Янкі Купалы двухтомнік Някрасава, поўны збор твораў М. Ю. Лермантава — 5 тамоў і поўны збор твораў Л. М. Талстога — 12 тамоў. Адначасова высылаем 15 кніжак на беларускай мове, выбраныя таксама для Вашай бібліятэкі Р. Р. Акулевічам. Пералік кніг у далучаным спісе. Калі атрымаеце, просьба пацвердзіць пісьмом. Прыміце пажаданні поспехаў у Вашай працы.

Дарэчы, Рыгор Акулевіч быў адным з заснавальнікам бібліятэкі ў Вялікай Кракотцы. У той час ён жыў у Канадзе, але пра родную бібліятэку і землякоў не забываў.


ВСЕСЛАВЯНСКИЙ КОМИТЕТ

Ліст са Усеславянскага камітэта



Моладзь вёскі Хадзявічы каля Сынковіцкай царквы, 1949 год

Цікава было б ведаць, якія беларускія кнігі даслаў у бібліятэку Рыгор Акулевіч? На жаль, спіс тых кніг пакуль не адшукаўся.

### Моладзь вёскі Хадзявічы каля Сынковіцкай царквы, 1949 год

Здымак хадзявіцкай моладзі быў зроблены на Тройцу каля Сынковіцкай царквы ў 1949 годзе. Аўтар здымка — жыхар вёскі Хадзявічы Уладзімір Саванец. Уладзімір яшчэ паспеў сфатаграфаваць сваіх вяскоўцаў і раздаць усім фотаздымкі. Праз пэўны час яго асабіста і ўсю яго сям'ю рэпрэсіруюць і вышлюць на Сахалін. Назад ужо ніхто з іх не вярнуўся.

З усіх тых, хто сфатаграфаваны на гэтым здымку, сёння жыве толькі адна жанчына — Ева Чыгрын. Ад яе і даведаўся, хто на гэтым здымку. Стаяць пры самай сцяне храма (злева направа): Аляксандра Надудзік, Сцяпан Шкляр, Надзея Баль, Іван Адамовіч, Ніны Чыгрын, Вольга Рагозік, Насця Клыбік, Яўгенія Жылінская, Ніна Жук, Вера Баль, Вера Важэйка, Вера Клыбік, Кацярына Акулка, Ева Чыгрын, Марыя Важэйка, Марыя Саванец, Марыя Акулка, Аляксандра Жук, Валянціна Клыбік, Ганна Селівончык. Другі рад, сядзяць злева направа: Мікалай Шкляр, Аляксей Рагозік, Павел Надудзік, Мікаолай Жук, Уладзімір Саванец, Уладзімір Баль, Міхаіл Акулка, Аляксей Клыбік, Міхаіл Раманчук. Трэці рад ляжаць злева направа: Любоў Шкляр, Валянціна Клыбік, Люба Клыбік, Ліда Чыгрын, Вольга Жук, Кацярына Клыбік, Валянціна Клыбік, Валянціна Чыгрын, Аляксей Жук. На пярэднім плане ляжаць (злева направа): Пётр Баль і Васіль Важэйка.

### Сланімчанкі, пачатак 1950-х гадоў

Здымак быў зроблены хутчэй за ўсё ў скверыку на Першамайскай вуліцы ў канцы 1940-х ці напачатку 1950-х гадоў. За плячыма дзяўчат бачны крамы і дзверы на баку



вуліцы, дзе стаіць касцёл. Дзяўчаты, відаць, прымалі ўдзел у нейкім мерапрыемстве, бо яны апрануты ў святочныя плацці. Невядомы фатограф іх і сфатаграфаваў на адной з лавак скверыка каля невялікага плоту, якім гэты скверык быў абгароджаны.

### Перад галоўнай поштай, 1950 год

За плячыма гэтых прыгожых сланімчанак уваход у будынак га-



лоўнай пошты Слоніма. Уваход і будынак увесь былі аплецены зелянінай. Цяпер такога няма. Каля ўваходу ў пошту стаяць салдаты і пазіраюць за сланімчанкамі, якіх фатаграфуюць. Мінула з таго часу каля 70 гадоў.

### Работнікі Слонімскай МТС, 1950 год

Гэтыя маладыя хлопцы працавалі на Слонімскай МТС (машынна-трактарнай станцыі). Кожнаму работніку выдавалася спецыяльная роба. А працавалі юнакі на такіх вось цяжкіх трактарах. За рычагамі трактара Міхаіл Раманчук з вёскі Хадзявічы. Гэты здымак быў зроблены ў Азярніцы ў 1950 годзе.



### Прыстань на канале Агінскага, пачатак 1950-х гадоў

Некалі канал Агінскага ў Слоніме, як і сама Шчара, былі глыбокімі і шырокімі. Па іх плавалі катары, лодкі, сплаўлялі драўніну. Яна бач-

Прыстань на канале Агінскага, пачатак 1950-х гадоў



Цэнтр горада, 1958 год



на на гэтым старым здымку. На канале знаходзілася і своеасаблівая прыстань. На ёй любілі фатаграфавацца слонімцы, асабліва дзяўчаты.

## Цэнтр горада, 1958 год

Цэнтр Слоніма каля скверыка з Леніным на Першамайскай вуліцы. Скверык абгароджаны невялікім плоцікам. Брукоўка вуліцы розная. Ніякіх машын не відаць, таму веласіпедыст спакойна едзе ў любы бок, куды пажадае. І самае галоўнае — у цэнтры шмат дрэў.

## Без танка, 1958 год

У цэнтры Слоніма шмат людзей на вуліцах. Адна грузавая машына. Прыгожы ўваход у скверык. І няма цяжкага помніка танку. Танк-Т-34 быў устаноўлены ў 1969 годзе. А вось помнік Леніну з другога боку скверыка на Першамайскай ужо стаяў, яго ўстанавілі ў 1950 годзе.



Без танка, 1958 год

### Фотаздымак на памяць, 1956 год

Цікавы здымак аднаго з фотаатэлье Слоніма 1956 года. Магчыма, гэта фотаатэлье знаходзілася на тэрыторыі сучаснай вуліцы Чарняхоўскага ў Слоніме. У самім атэлье стаяў вось такі матацыкл, за якім любілі тады фатаграфавацца вайскоўцы в/ч 61443. І гэтыя здымкі дасылалі ў розныя рэгіёны Савецкага Саюза.



### Галоўная пошта, 1958 год

За 60 гадоў змяніўся наш Слонім. Гэта вуліца, якая вяла да галоўнай пошты Слоніма. У старым будынку, пабудаваным з цэглы ў другой палове XIX — пачатку XX стагоддзя, жыла даволі багатая сям'я. Сам будынак унікальны. Гэта прыклад рэпрэзентацыйнай жылой забудовы ў стылі мадэрн. Ён вылучаецца высакаякасным выкананнем будаўнічых работ і цаглянай кладкі. Каля пошты знаходзяцца стэнды для свежых газет. Такія газеты вывешвалі тады, каб чыталі людзі. Злева — аднапавярховы будынак, якога даўно ўжо няма.



Галоўная пошта, 1958 год

## Забыты гісторык з Чамяроў

Пра доктара гістарычных навук з Чамяроў Міхаіла Міско звестак захавалася вельмі мала. Сціпла і рэдка пра яго згадвалі рэспубліканскія выданні. А апошнім часам і зусім забыліся пра чамяроўскага гісторыка.

Нарадзіўся Міхаіл Міско ў вёсцы Чамяры 17 лютага 1904 года ў сялянскай сям'і. Першая сусветная вайна выгнала сям'ю Міско ў бежанства, ажно ў горад Сярдобск Пензенскай губерні. Там хлопчык пачаў вучыцца ў школе, а пасля вяртання ў Чамяры працягваў вучобу ў роднай вёсцы.

У 1920 годзе, калі Слонімшчына адышла пад Польшчу, Міхаіл Міско нелегальна перайшоў мяжу і праз пэўны час апынуўся ў Маскве. Там ён здаў экзамены і паступіў на гістарычны факультэт Маскоўскага універсітэта. Паспяхова скончыўшы універсітэт, працягваў вучобу ў аспірантуры Інстытута чырвонай прафесуры.



Пасля доўгага расстання Міхаіл Міско (стаіць злева) сустрэўся са сваімі братам Якавам, сястрою Аленай, маці Соф'яй Іванаўнай і пляменнікамі ў Чамярах, 1952 год

У гады Другой сусветнай вайны наш зямляк быў ваенным карэспандэнтам. А пасля зноў вярнуўся ў Маскву, дзе да 1964 года працаваў у Інстытуце славяназнаўства Акадэміі навук СССР. Памёр Міхаіл Міско ў 1972 годзе.

У вёсцы Чамяры на Слонімшчыне жыла Тамара Якаўлеўна Лаўрашчук, родная пляменніца Міхаіла Васільевіча Міско. Гадоў 15 таму я сустракаўся з ёй і пытаўся пра гісторыка Міско. Са слоў Тамары Якаўлеўны мне тады стала вядома, што яе тата і Міхаіл Міско былі роднымі братамі. Шмат гадоў родныя не ведалі, дзе знаходзіцца Міхась, таму што ў свой час Слонімшчына была пад Польшчай, а брат жыў дзесьці ў Савецкім Саюзе. І толькі пасля 1939 года атрымалі вестачку з Масквы.

«Дзядзька Міхась да нас прыехаў за дзень да пачатку вайны, — успамінала Тамара Якаўлеўна. — Мы вельмі яго чакалі і былі шчаслівымі ад сустрэчы. Але на другі дзень гітлераўская Германія напала на Савецкі Саюз. І мой тата з дзядзькам пайшлі ў Слонімскі ваенкамат, каб спытацца, што ім рабіць. Бацьку адпусцілі дамоў, а дзядзьку сказалі тэрмінова вяртацца назад у Маскву. Так мы з ім зноў развіталіся на цэлыя чатыры гады».

Пасля вайны Міхась Міско часта наведваў родныя Чамяры. У хаце Тамары Якаўлеўны Лаўрашчук захоўвала кнігі яе дзядзькі з аўтографамі. Дзве кнігі ён падпісаў роднаму брату, а адну — пляменніцы: «Маёй пляменніцы Тамары ад аўтара. Кастрычнік, 1962 г. М. Міско».

Тамара Якаўлеўна таксама расказвала, што яе дзядзька вельмі позна ажаніўся. Жонка яго была бібліятэкарам. У іх нарадзілася дачка Ганначка (Аня — так яе ўсе называлі). Аня цяпер жыве ў ЗША. Пляменніца Міхася Міско паказвала і фотаздымкі дзядзькі.

Пры жыцці Міхаіл Міско выдаў дзве кнігі і быў сааўтарам некалькіх выданняў. Найперш наш зямляк даследаваў гісторыю Польшчы, асабліва эканамічнае і палітычнае становішча Польшчы напачатку XX стагоддзя.

У 1958 годзе ў Маскве выйшла вялікае трохтомнае даследаванне «Гісторыя Польшчы», дзе асобныя раздзелы па гісторыі суседняй дзяржавы былі напісаныя Міхаілам Міско.

А першая ўласная гістарычная манаграфія нашага земляка пабачыла свет у Маскве ў 1957 годзе. Яна называлася «Октябрьская революция и восстановление независимости Польши», дзе аўтар разглядае польскае пытанне і становішча польскіх зямель напярэдадні Першай сусветнай вайны і падчас акупацыі Польшчы германскімі і аўстрыйскімі войскамі, а таксама становішча Польшчы падчас рэвалюцыі ў Расіі 1917 года.

Другая кніга «Польское восстание 1863 года» прысвечана паўстанню пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Вядома, цяпер аўтар па-іншаму назваў бы сваё выданне, а тады, напачатку 1960-х гадоў, ён гэтага зрабіць не мог. Яму проста не дазволілі б. Ды і якое можа быць паўстанне ў 1863 годзе на Беларусі, ды яшчэ супраць расійскага царызму? А вось у Польшчы — гэта іншая справа. Хаця сам гісторык, мабыць, разумеў, што паўстанне такое ўзнікла на Беларусі, і беларускі народ змагаўся за сваю незалежнасць.

### Помнік савецкім воінам і партызанам, 1957 год

У 1956 годзе ў скверыку на вуліцы Пушкіна быў устаноўлены помнік — скульптура салдата з аўтаматам і апушчаны у жалобе сцягам. Аўтар помніка Акім Курачкін. Помнік стаіць і сёння. Але тады, калі помнік адкрылі, ўсе слонімцы любілі каля яго фатаграфавацца. Вось так выглядала пляцоўка вакол помніка з шырокай пліткай і сам помнік.



### Міхаіл Фрыдман і Слонімскі народны тэатр, 1950–1960-я гады

Тэатральны рэжысёр Міхаіл Фрыдман прыехаў у Слонім у лістападзе 1948 года. Яшчэ ў разваліх ляжаў старажытны Слонім пасля Другой сусветнай вайны, але развешаныя ўсюды афішы паведамлялі аб першым спектаклі толькі што створанага пры раённым Доме культуры тэатральнага гуртка. Кіраўніком гуртка тады быў дэмабілізаваны з арміі 27-гадовы франтавік Аляксандр Бялоў (1921–1985). У Слоніме Аляксандр Бялоў жыў да 1956 года. А пасля пераехаў у Мінск і працаваў акцёрам у Дзяржаўным рускім драматычным тэатры Беларусі. У 1977 годзе яму прысвоілі званне заслужанага артыста Беларусі. Як удзельнік Слонімскага драматычнага гуртка ў 1951 годзе ён быў узнагароджаны дыпломам на Рэспубліканскім аглядзе сельскай самадзейнасці за выкананне роляў Курачкіна ў спектаклі «Вяселле з пасагам» па п’есе М. Дзяканава і Швандзі ў спектаклі «Любоў Яравая» па п’есе К. Трэнёва.



Перад паездкай на гастролі. Міхаіл Фрыдман трэці злева, Слонім, 1960-я гады



Міхаіл Фрыдман з калектывам тэатра, 1952 год



Міхаіл Фрыдман (крайні злева) са слонімскімі артыстамі, 1950-я гады

У 1948 годзе Аляксандр Бялоў разам з Міхаілам Фрыдманам паставілі ў Слоніме свой першы спектакль «Шляхі-дарогі» па п'есе А. Фёдарава. Менавіта на гэтую прэм'еру клікалі слонімцаў развешаныя ўсюды афішы. Дарэчы, Міхаіл Фрыдман прыехаў у Слонім маючы за плячыма вялікі тэатральны вопыт.

Родам ён быў з Варшавы, дзе з'явіўся на свет 29 сакавіка 1894 года. У 1910–1927 гадах вандраваў як акцёр з яўрэйскімі вандроўнымі тэатральнымі трупамі па Украіне і Беларусі, а таксама скончыў маскоўскую тэатральную студыю «Свабоднае мастацтва». Дарэчы, у 1932 годзе група студэнтаў тэатральнага вучылішча пры Маскоўскім дзяржаўным яўрэйскім тэатры, якія займаліся на курсе народнага артыста СССР С.М.Міхаэлса, заявілі аб сваім жаданні пасля заканчэння вучобы паехаць на Далёкі Ўсход, каб стварыць там малады Яўрэйскі абласны нацыянальны тэатр. У складзе тэатральнай групы рэжысёра Марка Рубінштэйна былі і Міхаіл Фрыдман са сваёй жонкай.

А пасля вайны Міхаіл Фрыдман васямнаццаць гадоў жыў і працаваў у Слоніме. Менавіта Міхаіл Фрыдман узначаліў у тыя першыя пасляваенныя гады тэатральны гурток Слонімскага РДК, а Аляксандр Бялоў быў кіраўніком танцавальнага гуртка. Вопытны рэжысёр Фрыдман сур'ёзна працаваў над першым спектаклем, хаця яму было даволі цяжка. Не хапала дэкарацый, касцюмаў. Выручала толькі адно: для ўсіх патрэбны былі толькі вайсковыя мундзіры. А іх дастаткова пакінула вайна.

Тады ў 1948 годзе драмгурток атрымаў ад слонімцаў першыя апладысменты. Спектакль меў поспех. Яго паказвалі 32 разы. Ён і замацаваў веру самадзейных артыстаў і рэжысёра ў свае сілы. Пачалася сур'ёзная, мэтанакіраваная работа на сцэне, якая не спынялася дзесяцігоддзямі. Колькі пакут творчасці, памылак і расчараванняў пераносіў кожны артыст, пакуль іх гульня рабілася сапраўднай, пакуль кожны самастойна выходзіў на сцежку ўпэўненасці. Але рос талент артыстаў. Ён мацнеў на рэпетыцыях, раскрываўся ва ўсёй сваёй сіле на сцэне і гастролях.

У Слоніме ў драматычным гуртку, з першых яго крокаў, была абвешчана бязлітасная барацьба з дылетанцкімі захапленнямі, абыякавымі адносінамі да заняткаў у гуртку. У пакоі, дзе праходзілі рэпетыцыі гуртка, знаходзіўся вялікі партрэт К. С. Станіслаўскага, а ў нізе яго словы: «Любі мастацтва ў сабе, а не сябе ў мастацтве».

За час знаходжання ў Слоніме Міхал Фрыдман ажыццявіў пастаноўкі 27 спектакляў, сярод іх былі і лепшыя — «Выгнанне блудніцы» І. Шамякіна, «Вяселле з пасагам» М. Дзяканава, «Любоў Яравая» К. Транёва, «У добры час» В. Розава,

«Кухарка замужам» А. Сафронава, «Жаніцьба Бялугіна» А. Астроўскага, «Апошнія» М. Горкага, «Нячыстая сіла» Г. Стафанскага, «У бэзавым садзе» Ц. Саладара і многія іншыя. А ў 1959 годзе драматычны гурток Слонімскага РДК атрымаў званне народнага тэатра.

У пачатку лютага 1964 года слонімскія артысты прывезлі ў Мінск спектакль «Апошнія» па п’есе Максіма Горкага. Прэм’ера адбылася ў сталіцы ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Паглядзець спектакль прыйшлі старэйшыя майстры беларускай сцэны — Ларыса Александроўская, Канстанцін Саннікаў, Вера Пола, Сцяпан Бірыла і іншыя. Зала тэатра была перапоўнена. Перад пачаткам спектакля перад гледачамі выступіла народная артыстка СССР Ларыса Александроўская, якая шчыра павітала артыстаў са Слоніма, а таксама сказала, што ў спектаклі ролю Соф’і іграе народная артыстка Беларусі Вольга Галіна.

Спектакль сталічным гледачам спадабаўся. Пра гэту падзею напісалі амаль усе беларускія газеты. Пастаноўка таксама была паказана Мінскай студыяй тэлебачання. Тэатральны крытык Арсень Лабовіч у газеце «Знамя юности» 27 лютага 1964 года пісаў: «Дасягненне адзінства мастацкага стылю з’яўляецца пацвярджэннем высокага рэжысёрскага майстэрства пастаноўшчыка, кіраўніка Слонімскага народнага тэатра Міхаіла Фрыдмана. Усе выканаўцы аб’ядноўваюць свае намаганні вакол галоўнай ідэі спектакля — раскрыць перад гледачамі бесперспектыўнасць грамадскіх адносінаў, дзе чалавек чалавеку воўк. У гэтым — сучаснасць і актуальнасць пастаноўкі. Выканаўцы разумеюць, адчуваюць свае задачы, адчуваюць эпоху. Гэта добра. Разам з тым гэтыя індывідуальныя мэты не заўсёды зліваюцца ў агульную звышзадачу спектакля, у асобных сцэнах не хапае пачуцця ансамбля. Праўда, выключна вялікую дапамогу ў гэтым сэнсе аказала калектыву Вольга Уладзіміраўна Галіна. Сваёй выдатнай гульнёй яна не толькі ўзбагаціла калектыў сцэнічным вопытам, — яе выкананне нібы сцэментавала творчыя намаганні астальных выканаўцаў вакол вобраза Соф’і».

За спектакль «Апошнія» калектыў Слонімскага народнага тэатра і яго рэжысёр Міхаіл Фрыдман, а таксама артыстка Вольга Галіна, атрымалі падзяку ад Міністэрства культуры БССР.

Добра быў падрыхтаваны і меў поспех спектакль у пастаноўцы Міхала Фрыдмана «Глыбокая плынь» па п’есе Івана Шамякіна. П’еса расказвала пра гераічную барацьбу беларускіх людзей у гады Другой сусветнай вайны. Спектакль у канцы 1950-х — пачатку 1960-х гадоў выклікаў гарачыя пачуцці гледачоў. Многія ўдзельнікі вайны, калі



Пажарная часць і друкарня, 1959 год

глядзелі гэтую сцэнічную пастаноўку, плакалі, міжволі перакідваліся думкамі ў гады вайны і зноў перажывалі за сцэнічных герояў, як за сваіх сяброў.

У 1961 годзе Міхаіл Фрыдман паставіў спектакль «Кухарка» па п'есе А. Сафронава. Працягам гэтай камедыі праз год стаў спектакль «Кухарка замужам». Як з добрымі знаёмымі гледачы сустрэліся з кубанскімі калгаснікамі Паўлінай і Сцяпанам Казанцамі, Галінай Чайкай, Андрэем Пчолкам і іх сябрамі. Хаця ў новым спектаклі былі тыя ж лірычныя канфлікты, аднак многае змянілася. Цяпер ужо Паўліна і Галя адчувалі сваю жаночую перавагу над мужамі. Узнікалі новыя непаразуменні. Але па-ранейшаму ў зале не сціхаў смех. У спектаклі было шмат гумару, рэжысёрскай фантазіі, імправізацыі акцёраў. Пра ўсе спектаклі Слонімскага народнага тэатра тады пісалі многія газеты і часопісы. Кожная прэм'ера ў пастаноўцы Міхаіла Фрыдмана асвятлялася ў друку.

У сярэдзіне 1960-х гадоў Міхаіл Фрыдман развітаўся са слонімскім тэатральным калектывам. А яго ў 1968 годзе замяніў Мікалай Варвашэвіч.

## Пажарная часць і друкарня, 1959 год

Два будынкі, дзе сёння знаходзяцца пажарная часць і друкарня. Іх сфатаграфавалі 60 гадоў таму. Будынак на вуглу сённяшняй Камуністычнай вуліцы тады да друкарні не належаў. І дзвярэй гэтых у будынку няма ўжо. Былы дырэктар друкарні Уладзіслаў Філіпаў у 1990-х гадах прыдбаў стары будынак для свайго прадпрыемства. Цяпер тут адміністрацыя друкарні і крама. А пажарная часць знаходзіцца ў будынку справа, як і тады ў 1959 годзе. Праўда, выглядае ён цяпер не так, як у тыя далёкія гады.



Наперадзе ідзе «Красная зара», 1960-я гады

### Наперадзе ідзе «Красная зара», 1960-я гады

Наперадзе ўсіх дэманстрантаў ідзе слонімская фабрыка «Красная зара» (цяпер фабрыка мастацкіх вырабаў). Дарэчы, арцель «Красная зара» быў створаны ў Слоніме ў 1939 годзе. Яна паклала пачатак развіццю мастацкай вышыўкі, а з цягам часу і іншых народных мастацкіх промыслаў. У 1947 годзе слонімская арцель славілася сваімі абрусамі, вышытымі на сетцы шэрсцю. Лепшыя абрусы нават экспанаваліся ў 1947 годзе ў Парыжы на міжнароднай выставе.

У верасні 1960 года на базе арцелі «Красная зара» была створана Слонімская фабрыка мастацкіх вырабаў.

### Дах хаты пад снарадамі

Пасля вайны жыхар вёскі Хадзявічы Слонімскага раёна Рыгор Важэйка пачаў будаваць сабе новую хату. Збудаваў яе хутка, а дах вырашыў накрыць… гільзамі ад снарадаў. Гэтых гільзаў пасля вайны ў мясцовым лесе валялася шмат. Вясковец запрагаў каня і ехаў у лес. Там ён знаходзіў гільзы ад снарадаў, збіраў іх і прывозіў дамоў. Потым браў зубіла і штодня высякаў роўненькія кавалачкі металу. Імі ён накрыў дах сваёй хаты, веранду і хлеў.





Дарэчы, Рыгор Важэйка меў, як кажуць, залатыя рукі. Сам зрабіў плуг, барану, сошку, хатнюю мэблю і г. д.

Даўно ўжо памёр вясковец, а ў яго хаце цяпер знаходзіцца сельскі фельчарска-акушэрскі пункт. Але дах хаты пад снарадамі — як новы. «Тысячу гадоў прастаіць», — кажуць вяскоўцы.

## Што было і знікла з палаца Слізеняў у Новых Дзявяткавічах

На гэтых рэдкіх старых малюнках адлюстраваны палац Слізеняў у вёсцы Новыя Дзявяткавічы Слонімскага павета ў 1862-м і 1930-х гадах. Ён быў унікальны. На першым і другім паверхах ад вежы ішоў доўгі калідор, паабапал якога знаходзіліся кухня, пякарня, службовыя пакоі, банкетная зала, а таксама асабісты кабінет Альфрэда Слізеня. Побач размяшчаліся салоны з мармуровымі камінамі. Недалёка стаялі канапы, шмат антычных скульптур, вісела вялікая карціна Сухадольскага «Растрывожаныя коні перад навальніцай». Побач была сталовая з вялікім люстэркам, адна сцяна межавала з зімнім садам. Пасярод сталовай стаяў вялікі стол з крэсламі. У глыбіні сталовай знаходзілася фартэпіяна фірмы Бехстайна. Была і

Што было і знікла з палаца Слізеняў у Новых Дзявяткавічах







танцавальная зала, якая займала вышыню двух паверхаў. А таксама галерэя для аркестра і музей старой зброі. Да ўсяго гэтага яшчэ Слізені ў палацы мелі архіў, бібліятэку і більярдную залу. У музеі старой зброі захоўваліся рыцарскія даспехі, кірасы, мячы, коп'і, шаблі і шмат іншай зброі.

У архіве зберагалася вялікая колькасць каштоўных папер. Напрыклад, там захоўваўся каралеўскі прывілей Жыгімонта III Вазы ад 1589 года, які даваў права братам Івану і Абраму Мялешкам з Дзявяткавіч на будаўніцтва дарогі праз Грыўду.Былі там розныя тэстаменты, акты, сямейныя карэспандэнцыі і г.д. Усе матэрыялы зберагаліся ў вялікіх шкляных і драўляных шафах.

Бібліятэка Слізеняў мела вялікі збор старых кніг. Кнігі збіраліся на працягу чатырох стагоддзяў. Іх налічвалася каля 5 тысяч. Былі там і Трэці Статут ВКЛ, Радзівілаўская Біблія, творы Цэзара І Элерта, выданні езуітаў і іншыя…

Каштоўнасці з палаца Слізеняў пачалі знікаць падчас Першай сусветнай вайны, іх вывезлі на ўсход і назад не вярнулі. Потым палац рабавалі бальшавікі, а ў гады Другой сусветнай вайны яго спалілі партызаны.

### Фотаздымкі з альбома сланімчанкі Веры Падковіч

Сланімчанцы Веры Падковіч ужо 93 гады. Жыве яна адна на вуліцы Пушкіна ў Слоніме. Так склаўся лёс, што жанчына ніколі не была замужам, хаця кавалераў у маладосці хапала. Але не выйшла, хаця не адчувае сябе адзінокай і сёння, бо мае шмат родных і блізкіх людзей. Працавала ў райкаме камсамола, у гаркаме партыі, а пайшла на заслужаны адпачынак з пасады начальніцы аддзела кадраў Слонімскай фабрыкі мастацкіх вырабаў.

З Верай Падковіч можна гутарыць бясконца пра яе пражытыя гады. Успамінаць мінулае і людзей, сяброў і землякоў яна любіць шчыра і адкрыта. У яе аднапакаёвай кватэры даволі чыста і ўтульна.



Дзяўчаты, якія навучаліся на курсах шыцця. Фотаздымак быў зроблены слонімскім фатографам О. Дзерачынскім у Слоніме ў 1939 годзе



Юныя сланімчанкі, 1939 год

Жанчына шмат чытае, глядзіць па тэлевізару розныя перадачы, яе наведваюць пляменнікі і старэйшыя слонімцы, якіх яна ведае. Захоўвае Вера Іосіфаўна і некалькі фотаальбомаў. Адзін альбом ёй падаравалі ў 1961 годзе за «паспяховае распаўсюджванне савецкага друку ў 1961 годзе». У гэтым альбоме Вера Іосіфаўна змясціла шмат цікавых і рэдкіх здымкаў 1930-х—1950-х гадоў. Некаторыя здымкі сланімчанка дазволіла апублікаваць у «Слонімскім краі». Бяда толькі ў тым, што многія з іх непадпісаны, таму невядома, хто на здымках і калі яны былі зроблены. Тым не менш здымкі рэдкія і на іх адлюстраваны слонімцы першай паловы XX стагоддзя.



Настаўнік з вучнямі 7-га класа адной са школ Слоніма, 1939 год



У дзень адкрыцця піянерскага лагеру ў Палонцы, 24 чэрвеня 1951 года



Слонімскія прыгажуні, 8 сакавіка 1941 года



Работніцы тэкстыльнай фабрыкі на беразе Шчары, лета 1941 года



Слонімцы, красавік 1947 год



Вера Падковіч (злева) з сябрамі ў Слоніме, 1950 год



Сябры Веры Падковіч, г. Слонім, 1955 год

## Знакамітыя палякі Слонімшчыны

Так склаўся і складваецца лёс, што многія знакамітыя людзі нашай слонімскай зямлі, служылі і служаць іншым народам і краінам. І ў гэтым няма бяды, а наадварот, радуе тое, што яны адсюль родам, што яны — нашы, што пра іх ведаюць і ведалі ў тых краінах, дзе яны жылі. І хоць даўно іх няма на гэтым свеце, духоўна яны былі і ёсць часцінкаю нашай зямлі, на якой нарадзіліся і ўзраслі.

Сёння хочацца прыгадаць некаторых знакамітых палякаў, для якіх радзімай з'яўляецца наша слонімская зямля.

Польскі пісьменнік Крыштафу Завішу (1666–1721) нарадзіўся на



Слонімшчыне ў шляхетнай сям'і. Скончыў Віленскую і Кракаўскую акадэміі. Быў мінскім ваяводаю. Прымаў удзел у мірных перамовах паміж Маскоўскай дзяржаваю і Рэчы Паспалітай. Аўтар прамоваў на сеймах, напісаў «Успаміны», якія выйшлі ў Варшаве ў 1862 годзе, а таксама пакінуў шэраг іншых прац.

Самуіл Гіршорн (1876–1942) быў яўрэем, але пісаў толькі па-поль-



ску. Нарадзіўся ён у Слоніме ў дробнай мяшчанскай сям'і. У маладым узросце пераехаў у Варшаву, дзе скончыў гандлёвую школу. У 20–30-я гады XX стагоддзя рэдагаваў польскія газеты ў якіх друкаваў свае вершы і публіцыстычныя артыкулы. Быў дэпутатам сейма Польшчы. Аўтар польскамоўнай «Анталогіі яўрэйскай паэзіі» (Варшава, 1921 год).

Польскі журналіст і педагог Міхал Канарскі (1784–1661) нарадзіўся ў Слоніме. Вучыўся ў Жыровіц-



кай школе базыльянаў, скончыў Віленскі універсітэт. Жыў у Вільні, Пецярбургу і ў Адэсе. У Вільні ствараў інсцэніроўкі для мясцовых тэатральных труп, перарабляў вядомыя п'есы. У Пецярбурзе выдаваў газету на польскай мове «Баламут», а ў Адэсе займаўся дабрачыннай дзейнасцю. Ахвяраваў грошы на пабудову касцёлаў, школ і бальніц.

Родам са Слоніма быў і вядомы польскі паэт і перакладчык Юльян Корсак (1806–1855). Скончыў Віленскі універсітэт. Абіраўся старшынёй Слонімскага павятовага гранічнага суда. Выдаў кнігі «Вершы», «Новыя вершы». Перакладаў на польскую мову творы Д. Байрана, І. Гётэ, Гарацыя, Ф. Шылера, Дантэ.

Польскі мастак Фларыян Пякарскі (1868–1919) нарадзіўся ў Слоніме. Скончыў мастацкую школу Герсана ў Варшаве, а таксама акадэмію мастацтваў у Кракаве. Удзельнічаў у многіх выставах Варшаўскага таварыства згуртавання мастакоў. Перад Першай сусветнай вайной шмат падарожнічаў па Еўропе і наладжваў выставы сваіх карцін. У 1914 годзе ён наладзіў сваю выставу ў Вільні, наведаў родны горад. Цяпер творы нашага земляка захоўваюцца ў галерэях Вільні, Варшавы і Львова.

Польскі кінарэжысёр Збігнеў Хмялеўскі (1926–2009) нарадзіўся ў Слоніме. У Лодзі скончыў Вышэйшую школу кіно. Працаваў кінарэжысёрам на студыі «Згуртаванне вытворцаў фільмаў» і на студыі тэлефільмаў «Палітэль». Паставіў мастацкія фільмы «Твар анёла», «Шлюбная аб'ява», тэлесерыялы «След на зямлі», «Блізка, штораз бліжэй», 12-серыйны фільм «Сям'я Кандэраў» і іншыя.

Сацыёлаг, публіцыст і палітык Мікалай Казакевіч (1923–1998) нарадзіўся ў Альбярціне. Пасля вайны сям'я пераехала ў Польшчу. Мікалай Казакевіч там скончыў Варшаўскі універсітэт. Стаў доктa-



рам навук, прафесарам. Выдаў шмат кніг па сацыялогіі, адукацыі, выхаванню. У 1988–1991 гады быў маршалкам Сейма Польшчы, гэтак званага Кантрактнага Сейма.

### Першы пасляваенны слонімскі значок, 1969 год

У 1969 годзе да 25-годдзя вызвалення Слоніма ад гітлераўскіх захопнікаў быў выпушчаны вось гэты значок. Здаецца, пасля вайны гэта быў першы значок, прысвечаны Слоніму. 25 гадоў ніякіх значкоў на слонімскую тэматыку не выдавалася. Цяпер сёе-тое ёсць, але не так і шмат, як хацелася б.




### Помнікі баявой славы Слонімшчыны, 1972 год

Адшукаў у сваім хатнім архіве вось такі буклецін на шасці старонках. Ён быў выпушчаны ў Слонімскай друкарні ажно ў 1972 годзе. Тэкст буклета падрыхтаваў настаўнік Аляксандр Жукоўскі — заснавальнік музея Народнай славы СШ № 4 г. Слоніма. Буклет прысвечаны ўдзельнікам Другой сусветнай вайны Кузьме Гнедашу, Мікалаю Мірошніку і Міхаілу Амосаву. Буклет тады выйшаў накладам 1000 штук, афармляў яго мастак В. Шэфер.




### Прыдарожны знак, 1975 год

Гэты прыдарожны знак яшчэ раз даказвае, што Слоніму ў гэтым (2019) годзе спаўняецца 983 гады. Праз 17 гадоў — 1000-годдзе. Здымак быў зроблены ў 1975 годзе.




Слонімская прыгажуня ўважліва глядзіць на дату. І, сапраўды, Слоніму шмат гадоў і вялікая гісторыя ў нашага горада.

### З фотаальбома Міколы Арочкі

Адным з самых знакамітых слонімцаў на ўсе будучыя стагоддзі застаецца доктар філалагічных навук, паэт, празаік, крытык, літаратуразнавец і перакладчык Мікола Арочка (1930–2013), які нарадзіўся ў вёсцы Вецявічы на Слонімшчыне.

Мікола Арочка — адзін з таленавітых беларускіх літаратараў XX–XXI стагоддзяў. З-пад яго пяра выйшлі з друку найвыдатнейшыя гістарычныя паэмы «Курганне. Крэва» (1982), «Судны дзень Скарыны» (1990), «Каранацыя Міндоўга» (2003). Ён з’яўляецца аўтарам шматлікіх кніх паэзіі, сярод якіх —

«Матчына жыта», «Бяздонне», «Падземныя замкі», «Памяць зярнятаў» і іншыя, літаратуразнаўчых кніг пра Валянціна Таўлая, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, па сучасную паэзію і ваенную прозу, кніг перакладаў. Да сённяшніх дзён на Слонімшчыне так і не ўшанавана памяць пра знакамітага і таленавітага земляка. На магіле ў вёсцы Вецявічы жонка пісьменніка Марыя Іванаўна і ўнук Валерый паставілі яму сціплы помнік. А год таму сваякі ўстанавілі мемарыяльную шыльду на хаце, дзе пісь-



Надзея Пятроўна Арочка з сынамі Янам і Міколам. Вецявічы, 1938 год



Мікола Арочка, 1956 год



Мікола і Марыя Арочкі, 1953 год



Маці Міколы Арочкі, 1965 год у вёсцы Вецявічы



Марыя і Мікола Арочкі на Бяздонным возеры на Слонімшчыне




У гасцях у настаўнікаў і вучняў СШ № 2 г. Слоніма. Стаіць Мікола Арочка. У першым радзе злева направа сядзяць Уладзімір Дамашэвіч, Алег Лойка, ?, Мікола Арочка і Анатоль Іверс, 1968 год

меннік нарадзіўся і жыў. Вось і ўсё ўшанаванне. А ў 2020 годзе Міколу Арочку спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння.

Нядаўна жонка Міколы Арочкі Марыя Іванаўна Арочка перадала шмат рэдкіх фотаздымкаў пісьменніка з яго сямейнага альбома. Некаторыя з іх вырашыў уключыць у сваю кнігу.

## Жыў гісторыяй і краязнаўствам

Калі праязджаю каля музея Народнай славы СШ № 4 у Слоніме, мне заўсёды прыгадваецца Аляксандр Сямёнавіч Жукоўскі —заслужаны работнік культуры Беларусі, педагог, гісторык і краязнавец, заснавальнік гэтага музея. Ён быў і назаўсёды застаўся ў маёц памяці апантаным, пунктуальным, адданым энтузіястам сваёй справы. Такіх людзей у Слоніме сёння няма.

Я яго бачыў і сустракаўся з ім ў Слоніме амаль штодня. Ён заўсёды з папкаю ў руках кудысьці спяшаўся, найперш да мясцовых чыноўнікаў, каб нешта ім паказаць, прапанаваць, папрасіць. Не часта яны слухалі Аляксандра Сямёнавіча, але ён не адступаў — заўсёды настырна, нават надакучліва стаяў на сваім і дабіваўся таго, чаго хацеў, што задумаў. І ўдача яму спрыяла. Я маю на ўвазе ўдача на ніве слонімскага краязнаўства, у дзейнасці ім створанага Народнага музея СШ № 4 г. Слоніма, сёння Народнага музея імя А. С. Жукоўскага. У СШ № 4 ён спачатку займаў увесь трэці паверх школы, а цяпер музей месціцца ў асобным будынку, агульнай плошчай 300 кв.м. У фондах музея сёння захоўваецца звыш 6 тысяч унікальных экспанатаў,



Аляксандр Жукоўскі з вучнямі СШ № 4 г. Слоніма Вадзімам Крупнікам і Аленай Слуцкай

сабраных Аляксандрам Жукоўскім. Найбольш экспанатаў, прысвечаных Другой сусветнай вайне. Ёсць шмат дакументаў 1920–1930-х гадоў, скульптурныя партрэты, творы жывапісу вядомых беларускіх мастакоў, некаторыя адзінкі зброі, узнагароды, франтавыя пісьмы, фотаздымкі, альбомы і г. д.

Экспазіцыі школьнага музея сёння складаюцца з наступных раздзелаў. Гэта раздзелы — «Наш край у 1914–1920 гадах», «Слонімшчына пад уладай Польшчы ў 1920–1939 гг.», «Сацыяльныяператварэнні на Слонімшчыне (1939–1941 гг.)», «Наш край у гады Другой сусветнай вайны», «Слонімшчына сёння», «Выпускнікі СШ № 4». Па ўсіх гэтых раздзелах, дзякуючы найперш Аляксандру Жукоўскаму, сабраны вельмі багатыя і цікавыя матэрыялы. Дарэчы, у бліжэйшы час у музеі плануюць адкрыць яшчэ новую залу з экспанатамі.

У 1992 годзе я папрасіў Аляксандра Сямёнавіча напісаць для мяне сваю біяграфію. Ён спачатку адказваўся, маўляў, не люблю пісаць аўтабіяграфій, але потым неабходна пагадзіўся і праз некалькі дзён мне яе прынёс, надрукаваную на пішучай машынцы. Гэта біяграфія захоўваецца ў мяне да сённяшніх дзён. З яе я даведаўся, што не так проста і лёгка складваўся жыццёвы лёс Аляксандра Жукоўскага.

Нарадзіўся ён у беларускай сям'і, якая, як і тысячы беларусаў, была эвакуіравана ў глыб Расіі. Сям'я Жукоўскіх апынулася аж у Арэнбургу, дзе іх напаткала вялікае гора. Там памерлі маці, два браты і сястра. Бацька Аляксандра Жукоўскага Сямён Мікалаевіч дамоў у родную вёску Ашнаравічы на Слонімшчыну вярнуўся з маленькім Сашам і са сваёй маці. Сашу Жукоўскаму тады было ўсяго 6 месяцаў. Але бацька хутка зноў ажаніўся і ў Сашы з гадамі з'явілася яшчэ 5 братоў і сясцёр.

Першым і галоўным настаўнікам Сашы Жукоўскага быў ягоны бацька — сельскі шавец, якога ў Ашнаравічах і ў навакольных вёсках добра ведалі, як дасціпнага чалавека і выдатнага майстра. Ён вельмі хацеў, каб сын атрымаў адукацыю. Таму спачатку хлопчык скончыў сямікласную польскую школу ў вёсцы Дзераўная, а потым, параіўшыся са сваім настаўнікам Стэфанам Іванашкам, здаў уступныя экзаме-

ны ў польскую дзяржаўную гімназію імя Т. Касцюшкі № 922 у Слоніме. Паколькі плаціць за навучанне Жукоўскаму не было чым, Стэфан Іванашка дапамог яму за дзяржаўны кошт паступіць у гімназію № 5 Ю. Панятоўскага ў Варшаву. Туды і паехаў вучыцца беларускі юнак. Там правучыўся да пачатку Другой сусветнай вайны і ў канцы 1939 года вярнуўся ў Слонім. Калі вярнуўся на радзіму, паступіў у Першую беларускую сярэднюю школу, якую закончыў паскораным тэмпам, бо датэрмінова здаў усе экзамены.

Падчас вайны Аляксандр Жукоўскі жыў з бацькамі ў Ашнаравічах. Працаваў настаўнікам пачатковай школы ў вёсцы Дзераўная. Вайна вайной, а дзяцей вучыць трэба было. Што і рабіў малады беларускі настаўнік.

Пасля вайны ўсё сваё жыццё звязаў з педагогікай. Ён скончыў гістарычны факультэт Баранавіцкага дзяржаўнага беларускага педагагічнага інстытута, працаваў загадчыкам Ашнаравіцкай пачатковай школы, потым Ёцавіцкай, Горкаўскай школ на Дзятлаўшчыне, намеснікам дырэктара і дырэктарам Вішаўскай школы, потым дырэктарам Чамяроўскай васьмігадовай школы на Слонімшчыне і г. д.

У вёсцы Чамяры напачатку 1960-х гадоў Аляксандр Жукоўскі пачаў збіраць першыя звесткі пра гісторыю роднага краю. А аднойчы ў школу ён запрасіў усіх вяскоўцаў і выступіў з дзіўнай па тых часах прапановай адкрыць у Чамярах музей. Некаторыя нават на смех яго паднялі: хіба няма больш важнай справы, чым музей… Але Аляксандру Жукоўскаму ўдалося зацікавіць людзей і хутка ў Чамяроўскай школе адкрыўся краязнаўчы куток, а потым музей, які праз пэўны час стаў народным. На жаль, цяпер даўно ў Чамярах няма школы і слядоў не засталося ад таго музея. І куды ж падзеліся ўсе экспанаты?.. Старыя чамяроўцы пра гэта нічога не ведаюць.

У 1964 годзе Аляксандр Жукоўскі стаў працаваць настаўнікам гісторыі ў СШ № 4 г. Слоніма. Але і тут ён займаўся не толькі педагогікай, але і краязнаўчай, музейнай справай. Створаны ім музей у СШ № 4 г. Слоніма да сённяшніх дзён лічыцца адным з найлепшых школьных музеяў рэспублікі. Выключная працавітасць, выдатная памяць, талент даследчыка, прынцыповасць, настойлівасць і неардынарнасць думкі дапамагалі яму да апошніх дзён жыцця весці пошукавыя і даследчыя працы па ўзнаўленню гераічнага мінулага Слонімшчыны.

Акрамя гэтага, Аляксандр Жукоўскі на працягу ўсяго свайго жыцця шмат пісаў і друкаваў сваіх артыкулаў па гісторыі, краязнаўству і педагогіцы. У 1971 годзе (другое выданне выйшла ў 1973 годзе) выда-

вецтва «Народная асвета» выпусціла ў свет ягоную кнігу «Школьны музей рэвалюцыйнай і баявой славы», дзе аўтар абагульніў свой багаты вопыт па зборы матэрыялаў і арганізацыі школьнага музея, цікава распавёў пра разнастайную працу юных краязнаўцаў, пра тое, як трэба выкарыстоўваць матэрыялы музея ў вучэбнай і выхаваўчай рабоце ў школе і па-за школай. А ў 1990 годзе ў Гродне выйшла яго невялікая кніжачка «Назаві яго імем», прысвечаная героям Другой сусветнай вайне.

Дзякуючы Аляксандру Сямёнавічу Жукоўскаму, савету яго музея ўдалося ўстанавіць 55 прозвішчаў савецкіх воінаў, якія загінулі падчас вайны на тэрыторыі Беларусі. На тэрыторыі школы ў гонар удзельнікаў баёў за Слонім у гады Другой сусветнай вайны быў адкрыты памятны абеліск…

Пры жыцці Аляксандр Жукоўскі быў узнагароджаны шматлікімі нагруднымі знакамі, медалямі, граматамі, у тым ліку і граматай Савета Міністраў СССР. У 1990 годзе яму было прысвоена ганаровае званне заслужанага работніка культуры Беларусі. Але, на жаль, хадайнічалі ў гэтым не слонімскія чыноўнікі, а зусім іншыя людзі. У Слоніме такіх асоб, як Аляксандр Жукоўскі, не ўмелі і не ўмеюць пры жыцці і пасля жыцця ўшаноўваць і шанаваць.

І апошняе. Аляксандр Жукоўскі шмат пісаў, публікаваўся ў розных часопісах і газетах. Даўно пара сабраць яго лепшыя артыкулы ў адну кнігу і выдаць асобным выданнем.

### Фабрыка мастацкіх вырабаў на дэманстрацыі, 1977 год

У 1940–1980-х гадах на святы 1 Мая, 9 Мая і 7 лістапада па ўсёй Беларусі адбываліся дэманстрацыі працоўных. Паспрабуй толькі не пайсці — будуць непрыемнасці на працы. І людзі хадзілі. Дэманстрацыі ў Слоніме адбываліся на Першамайскай вуліцы. На трыбунах стаялі кіраўнікі гаркама партыі, райвыканкама і райсавета. А людзі праходзілі побач з рознымі плакатамі, стэндамі, партрэтамі членаў ЦК КПСС і махалі рукамі тым, хто стаяў на трыбуне. Кожны ішоў са сваім калектывам, так, як напрыклад, на гэтых здымках ішлі працоўныя Слонімскай фабрыкі мастацкіх вырабаў 42 гады таму на Першамайскай і Кастрычніцкай дэманстрацыях.



Фабрыка мастацкіх вырабаў на дэманстрацыі, 1977 год





### Дэманстрацыя ў цэнтры горада, 1960-я гады

Вось так людна праходзілі дэманстрацыі ў Слоніме на Першамайскай вуліцы ў 1960-я гады. Каб паглядзець на тых, хто будзе праходзіць калонай, слонімцы нават залазілі на плот, глядзелі з балконаў і з падаконнікаў, а таксама з вокнаў сваіх кватэр. Цяпер такога няма. А тады святы адзначаліся шматлюдна і з верай у сацыялізм і камунізм.



Дэманстрацыя ў цэнтры горада, 1960-я гады

### Кніга «Помнікі Слоніма», 1983 год

У 1983 годзе ў мінскім выдавецтве «Навука і тэхніка» свет пабачыла кніга Валянціны Караткевіч і Анатоля Кулагіна «Помнікі Слоніма». Гэта выданне да сённяшніх дзён застаецца адным з самых унікальных выданняў пра Слонім другой паловы XX стагоддзя. Наклад яе быў 3500 асобнікаў. На вялікі жаль, Валянціна Браніславаўна гэтай кнігі ў руках так і не патрымала. Яе не стала за некалькі месяцаў да выхаду кнігі ў свет. Дарэчы Валянціна Караткевіч — гэта жонка нашага славутага пісьменніка Ўладзіміра Караткевіча.




Кніга «Помнікі Слоніма» у той час вельмі хутка разышлася. І цяпер яна з'яўляецца бібліяграфічнай рэдкасцю. У кнізе разглядаюцца каштоўныя ў гістарычным, мастацкім і горадабудаўнічым аспектах комплексы забудовы, асобныя збудаванні і ўнікальныя ўзоры архітэктуры Слоніма ў тыя 1980-я гады.

### Дзе загінулі Гнідаш і Давідзюк, 1987 год

9 ліпеня 1987 года, на месцы гібелі Героя Савецкага Саюза разведчыка Кузьмы Гнідаша і радысткі Клары

Дзе загінулі Гнідаш і Давідзюк, 1987 год



Давідзюк, быў адкрыты на Слонімшчыне мемарыяльны знак. Падчас адкрыцця прысутнічалі ветэраны вайны, вайскоўцы і звычайныя слонімцы. Пра гэта сведчыць стары здымак.

### Меню рэстарана «Слонім», 1989 год




30 гадоў таму ў рэстаране «Слонім» меню падавалі вось у такіх папках. Мне яна, шчыра кажучы, падабаецца. Тэкст меню быў надрукаваны на машынцы, яго ўкладвалі ў гэту жоўтую папачку, і падавалі на стол. Друкавалася гэта папка ў Слонімскай друкарні. Наклад яе быў 200 асобнікаў.

## Слонім на паштовых марках




Герб Слонім атрымаў, дзякуючы выдатнаму дзяржаўнаму і грамадскаму дзеячу Вялікага Княства Літоўскага Льву Сапегу. Па яго хадайніцтву Слоніму каралём Жыгімонтам III 4 студзеня 1591 года быў нададзены герб: на блакітным шчыце залаты леў стаіць на задніх лапах і трымае срэбную стралу ў выглядзе падвойнага крыжа.

РУП «Белпошта» у 2004 годзе выпусціла ў абарачэнне марку, на якой адлюстраваны герб Слоніма. А ў ліпені 2019 года Белпошта выпусціла яшчэ адну паштовую марку, прысвечаную Слоніму. На марцы адлюстраваны помнік-герб Слоніма, які знаходзіцца каля Слонімскага райвыканкама, касцёл Святога Андрэя, Свята-Троіцкі сабор і галоўны фасад драматычнага тэатра.




## Самая папулярная слонімская дыскатэка 1980-х гадоў




Самай папулярнай дыскатэкай ў Слоніме ў 1980-х — пачатку 1990-х гадоў была дыскатэка «Імпульс» камвольна-прадзільнай фабрыкі. Дыскатэка знаходзілася ў інтэрнаце КПФ па адрасе: вуліца Брэсцкая, 69/2. Нават патрапіць туды маглі не ўсе жадаючыя. Там праходзілі і розныя гарадскія мерапрыемствы, конкурсы, гульні. На працягу апошніх 50 гадоў больш папулярнейшых дыскатэк



у Слоніме, якой была дыскатэка «Імпульс», не з’явілася. Вось па таких запрашальных білетах слонімцы маглі наведаць той папулярны «Імпульс».

### Устаноўчы сход Слонімскага ТБМ, 1990 год

14 сакавіка 1990 года ў Слонімскім раённым Доме культуры адбыўся Ўстаноўчы сход Слонімскага раённага Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны. Падчас сходу быў выбраны кіраўнік ТБМ і намеснікі. Слонімскі мастак Рыгор Жук да гэтай падзеі намаляваў запрашальны білет з партрэтам нашага першадрукара і асветніка. Запрашальны білет быў надрукаваны ў Слонімскай друкарні накладам 250 асобнікаў.




### На магіле Язэпа Стаброўскага ў Орлавічах, 1994 год

Язэп Стаброўскі (1870–1968) — беларускі археолаг, краязнавец, гісторык, філосаф, вынаходнік, заснавальнік Слонімскага раённага краязнаўчага музея, адзін са знакамітых слонімцаў XX стагоддзя. Пахаваны ён разам з усімі сваімі роднымі на могілках у вёсцы Орлавічы Слонімскага раёна. Набліжаліся Дзяды — памінальны абрад нашых продкаў. Невялікая група слонімскіх энтузіястаў завітала ў Орлавічы. Дзякаваць Богу, жыла побач на хутары яшчэ і Валянціна Кузьмінічна Курыловіч, якая нам падказала, дзе хто ляжыць са Стаброўскіх, дзе які крыж трэба ставіць, успомніла жанчына і пра Язэпа Стаброўскага, які ў свой час перадаў орлавіцкім сялянам у вечнае карыстанне 65 гектараў зямлі…

Спахмурнеў твар жанчыны. Зірнула на нас і пачала распавядаць: «Дзедушку нашага даўно ведаю. Працавіты быў, не зухаваты, для людзей харошы. Але пад канец яму плоха жылося. І я насіла яму ў Слонім то малака, то смятанкі, то мукі — што мела… Сама я з Браншчыны. У вайну немцы сюды вывезлі, у лагер «Грыбава», што пад Слонімам. Сынка майго, Мішку, пад танк бросілі яшчэ там, ля нашай



На магіле Язэпа Стаброўскага і яго сям'і ў Орлавічах 1 лістапада 1994 года.



Валянціна Курыловіч, якая ведала і сябравала са Стаброўскімі

Скробаўкі. Дзевачку, Вальку, тут, у лагеры, смярцельнымі ўколамі закалолі… А я ўцякла з лагера і сюды прыбілася, на хутар. Потым замуж мяне ўзяў Хвіліп Курыловіч, што у Стаброўскіх гадаваўся. Ён, Хвіліп, у шэсць гадочкаў уцёк ад мачыхі і пайшоў, як тады казалі, да пана. І пан, гэта значыць Стаброўскі, прыняў яго, на ногі паставіў. Яны ўвесь час разам былі. І курганы раскопвалі, і камяні тачылі на помнік… Але я не туды забегла! Вам пра самаго Стаброўскага трэба… Так вот. Прыехала да яго аднойчы ў Слонім, а ён пры смерці, просіць: «Валюшка, перадай людзям, каб не мучыліся, не капалі глыбокую магілку. Зіма стаіць на двары!». Ускорасці і памёр. На дзевяноста дзевятым годзе жызні. Да гэтага завейка круціла, снегу намяло, а харанілі — сонечны дзянёк выдаўся. Вот вам і прырода паспачувала. Ад гасцінца труну на плячах неслі… Нашага дзедушку, як звалі яго тут, людзі з усіх дзеравень праводзіць прый-

шлі. Жалобны стол у нашай хаце правілі. Мы яе з Хвіліпам якраз там пастроілі, дзе хата Стаброўскага стаяла…».

Кузьмінічна змоўкла. Твар яе па-ранейшаму быў хмуры. Счакала нейкую хвіліну і працягвала: «Вот гэтыя дубовыя крыжы, — на магілах яго блізкіх: жаны Амеліі, сына Міраслава і дачкі Іры. А маленькі крыжык, што прыслонены да помніка, з магілы дзедушкі. Зусім згніў… І магілка з зямлёю зраўнялася…Помнік стаўляў сваім родным Стаброўскі. З маім Хвіліпам. Яны і камяні з поля вазілі, і часалі… Гады са тры іх часалі-тачылі…».

Яна памаўчала трошкі і дадала: «А ён, Стаброўскі, чыста ведаў, што ніхто яму не паставіць помніка… То як бы і сабе паставіў тады яго…».

Мы некалькі гадзін ачышчалі талакой магілы Стаброўскіх у Орлавічах. І ачысцілі, як маглі. Праўда, цяпер магілы Стаброўскіх у Орлавічах даглядаюцца. Там штогод праводзяць суботнікі супрацоўнікі Слонімскага краязнаўчага музея, слонімскія кадэты і творчая інтэлігенцыя.

## Фестываль сямейнай творчасці, 1994 год

Пачынаючы з 1994 года ў Слоніме адбыліся пяць рэспубліканскіх фестываляў сямейнай творчасці «Жывіце ў радасці». Апошні V фе-




стываль слонімцы віталі ў чэрвені 2017 года.

## Пад надзейная аховай

Некалькі гадоў таму зрабіў гэты здымак каля нашага Слонімскага краязнаўчага музея імя Стаброўскага. Якраз адзначаўся Дзень музеяў. За плячыма дзетак стаяў мядзведзь з залы прыроды музея. Як быццам жывы. І дзеткі спакойныя глядзяць, што адбываецца на



пляцоўцы каля музея. Глядзяць пад надзейнай аховай Мішкі Касалапага. Можа хто і пазнае сваіх дзетак. Здымак файны. І дзеткі прыгожыя з Мішкаю за плячыма.

## Дажынкі-2014

У лістападзе 2014 года ў Слоніме адбыўся Гродзенскі абласны фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі «Дажынкі-2014».

Амаль чатыры месяцы будаўнікі з усёй Гарадзеншчыны добраўпарадкоўвалі цэнтр горада над Шчарай. Паміж вуліцамі Карла Маркса і Чырвонаармейскай насупраць райвыканкама ў Слоніме з’явілася новая вялікая плошча з трыма фантанамі. Да Дажынак новы выгляд атрымаў і раённы цэнтр культуры, дзе і праходзілі цырымонія ўручэння прэмій пераможцам абласнога спаборніцтва па ўборцы ўраджаю 2014 года і святочны канцэрт.

Падчас Дажынак быў адкрыты спартыўны комплекс пасля рамонту і памятны знак «Герб горада Слоніма» на новай плошчы горада.

## Уладзімір Караткевіч на Слонімшчыне

Беларускі паэт, празаік, драматург, публіцыст, перакладчык, сцэнарыст, класік беларускай літаратуры Уладзіміра Караткевіча (1930–1984) моцна любіў Беларусь, яе гісторыю і людзей. Але больш за ўсё ён любіў падарожнічаць па роднай Бацькаўшчыне. З вандровак ён прывозіў новыя задумкі, тэмы і творы. Бываў Уладзімір Караткевіч і на Слонімшчыне. Упершыню ён наведаўся сюды летам 1963 года. Разам з ім прыязджалі




Дажынкі-2014



Анатоль Кулагін, Уладзімір Караткевіч і Алег Лойка ў Слоніме, 1981 г.

Янка Брыль і Уладзімір Калеснік. Пазней пра гэту паездку на Слонімшчыну і пра сваіх сяброў пісьменнік напіша ў артыкулах «Мой друг і мая зямля» і «Шляхі ў палях». Што ж уразіла ў Слоніме вялікага літаратара ў першы прыезд? «Быў Слонім, роўны канал і крэмавыя старыя будынкі, ля муроў якіх, у закутках, раслі каравыя старажытныя каштаны, — піша Уладзімір Караткевіч. — У Слонімскім музеі ўразіла мяне адна рэч. Я тады пасароме́ўся пра яе сказаць. А шкада, можа б, насмяяліся. Уразіла каменная галава язычаскага Бога. Невядомы скульптар, высякаючы яе, відавочна, меў на ўвазе Янку. Аблічча было такое самае — моцнае і масіўнае. Вачэй, што праўда, не хапала. Разумных чалавечых вачэй. Што зробіш, продкі таксама ўсяго не прадбачылі… І толькі гэта ўнутранае падабенства дало мне тады шчаслівае адчуванне рэальнасці таго фантастычнага хараства, што буяла вакол. Аднаго з найпрыгажэйшых гарадоў і адной з найпрыгажэйшых вёсак Беларусі — Кракоткі, і замкаў, і старых муроў».

Што датычыць вёскі Кракотка, дык пісьменнік яе, сапраўды, вельмі моцна палюбіў. У артыкуле «Шляхі ў палях» ён зноў прыгадвае гэтую вёску і яе людзей: «Мы ў Малой Кракотцы, у сябра-настаўніка, дужа добрага чалавека. Малая Кракотка — адна з найпрыгажэйшых вёсак, што мне давялося бачыць за ўсё жыццё…».

Вёска Кракотка — вельмі прыгожая вёска з багатай гісторыяй, нацыянальнымі традыцыямі, са знакамітымі людзьмі. Яшчэ ў 1927 годзе тут была адкрыта беларуская бібліятэка імя Янкі Купалы. Гэта першая ў Беларусі ўстанова, якой было прысвоена імя Народнага Песняра. У такім прыгожым і багатым на таленты куточку Слонімшчыны не пабываць і не палюбіць

яго — Уладзімір Караткевіч проста не мог.

Другі раз наведаў ён Слонім у жніўні 1966 года ў складзе здымачнай групы «Беларусьфільма», якая здымала кароткаметражны дакументальны фільм «Памяць каменя». Са Слоніма іх шлях ляжаў у Сынковічы, Пружаны, Брэст.

Уладзімір Караткевіч не толькі бываў на Слонімшчыне, але і шчыра сябраваў з многімі слонімцамі. У добрых сяброўскіх адносінах ён быў з Анатолем Іверсам, Іванам Чыгрыным, Сцяпанам Міско і з Міколам Грынчыкам, які быў родам з Быценя. Дарэчы, у маі 1967 года разам з Міколам Грынчыкам Уладзімір Караткевіч зноў наведаў Слонім і Быцень, а таксама вёску Мілавіды, дзе ў 1863 годзе адбыўся бой паміж паўстанцамі і царскімі войскамі.

Вельмі шчыра сябраваў Уладзімір Караткевіч з Алегам Лойкам. Разам яны аб’ездзілі амаль усю Беларусь, прымалі ўдзел у літаратурных вечарах і сустрэчах. Бываючы ў Слоніме, пісьменнік заўсёды гасціў у бацькоўскай хаце Алега Лойкі, якая знаходзіцца на Зялёнай вуліцы.

У жніўні 1981 года Уладзімір Караткевіч прыехаў у Слонім разам з жонкай Валянцінай Браніславаўнай і гісторыкам Анатолем Кулагіным. Тады Валянціна Караткевіч і Анатоль Кулагін збіралі матэрыялы для будучай сваёй кнігі «Помнікі Слоніма». Яны спыніліся ў хаце Алега Лойкі, дзе за багатым сталом вялі гутарку пра гісторыю Слоніма. А пасля Валянціна Караткевіч паклікала пісьменнікаў на вуліцу і сфатаграфавала іх на памяць.

Вялікую дапамогу ў напісанні кнігі «Помнікі Слоніма» аказваў жонцы Уладзімір Караткевіч. Кніга атрымалася ўнікальнай, да сённяшняга дня ніхто падобнай пра помнікі Слоніма так і не напісаў. На жаль, Валянціна Караткевіч сваю кнігу так і не пабачыла. Яе не стала ў пачатку 1983 года, а кніга выйшла з друку праз паўгода.

Бываючы ў Слоніме, Уладзімір Караткевіч любіў пахадзіць па берагах Шчары і канала Агінскага, а таксама завітаць у Слонімскі краязнаўчы музей. У сваім знакамітым нарысе «Зямля пад белымі крыламі» ён пісаў: «Ціхая даліна Шчары. Песцяць вока зялёныя лугі, узгоркі, лясы. І на беразе, як цацка, Слонім. Сямісотгадовы юнак. Чыстая вада з зялёнымі косамі водарасцяў, што звіваюцца ад хуткасці, амывае яго, бягуць угору і ўніз маляўнічыя вулачкі, бялеюць вежы. Галоўным чынам беларускае барока XVI–XVII стст., але не вычварнае і раскошнае, а простае і строгае. Мясцовы густ.

Тут найлепшы мясцовы музей ва ўсёй Беларусі, музей, які не саступіць і абласному. Прынамсі, ён быў такі, пакуль жыў яго засна-

вальнік і дырэктар на працягу дзесяткаў год І. Стаброўскі. Пры апошнім наведванні музей мне спадабаўся менш. Экспазіцыя горшая, некаторыя вельмі цікавыя рэчы ў запасніку, а менш цікавыя занялі іх месца.

Прамысловасць тут, галоўным чынам, харчовая, лёгкая (ільнозавод, фабрыка тэкстыльная і мастацкіх вырабаў) і металаапрацоўчая.

А вакол колькі ўсяго! Канал, пабудаваны дзядзькам кампазітара Агінскага, цікавы папярова-кардонны камбінат у Альбярціне, унікальная ў сваёй прыгажосці і суровасці не толькі на Беларусі, але і ва ўсёй Еўропе царква-крэпасць у Сынковічах, такая сумнаадлучаная ад усяго сярод масіваў яблыневых садоў. І комплекс былога уніяцкага манастыра ў Жыровічах (XVII ст.) з неацэнным сваім жывапісам…».

Захапляўся Уладзімір Караткевіч і Бяздонным возерам, цікавіўся старажытнаславянскім могільнікам V–IX стагоддзяў, што ля вёскі Клепачы. Пра гэта ён пісаў у сваім рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

Уладзімір Караткевіч пражыў усяго 54 гады. Ён заўсёды радаваўся сустрэчам са слонімскай зямлёй і яе людзьмі. Зямля наша захавала яго сляды, а мае землякі — памяць пра пісьменніка.

### Першыя вымпелы, прысвечаныя Слоніму




Першы слонімскі вымпел у незалежнай Беларусі з’явіўся дзесьці ў 1990-х гадах. На ім адлюстраваны помнік загінулым воінам у гады Другой сусветнай вайны. Потым на вымпелах у асноўным пачаў з’яўляцца герб Слоніма — у блакітным полі залаты леў з гербам «Ліс» у лапах. Атрыманы герб быў 4 студзеня 1591 года. Спачатку слова Слонім пісалася па-беларуску, а потым — на рускай мове. На адным з вымпелаў адлюстраваны герб Слоніма і дата: 1252, калі Слонім упершыню прыгадваецца ў Іпацьеўскім летапісе. Выдаваўся вымпел з Жыровіцкай крыжаўзвіжанскай царквой і г. д.

### Вадаспад у Альбярціне, пачатак XXI стагоддзя

Вельмі любілі слонімцы і госці нашага горада вось гэты вадаспад у Альбярціне. Любілі пастаяць на металічным мосціку і глядзець уніз, як падае вада. Смельчакі заходзілі пад мост і станавіліся пад падаючую зверху ваду. Цікавае было месца. Цяпер вадаспада ў



Вадаспад у Альбярціне, пачатак XXI стагоддзя



Альбярціне няма. Ёсць звычайнае возера з дзіравымі лодкамі каля берагу.

### Беларускамоўныя этыкеткі Слонімскага вінзавода, 1990-я гады

Не ведаю, ці былі па якасці смачнейшыя гэтыя горкія напоі Слонімскага вінзавода ў тыя блізкія-далёкія 1990-я гады і напачатку 2000-х, але амаль усе этыкеткі



ў той час Слонімскім вінзаводам выпускаліся па-беларуску і мелі даволі добрыя назвы і мастацкае аздабленне. Цяпер такога няма. Хіба бывае толькі назва напою па-беларуску, а ўсё астатняе парасейску. Ды і сам вінзавод з'яўляецца сёння філіялам Дзятлаўскага лікёра-гарэлачнага завода. Адны нашы прадпрыемствы сталі філіяламі прадпрыемстваў другіх гарадоў, іншыя — абанкруціліся і закрыліся назаўжды.

### У слонімскай сінагозе быў бар, 1990-я гады

Два старых фотаздымкі. На першым, каля сінагогі злева, малочны бар, а справа, дзе ліхтарыкі, планаваўся бар для дарослых. Яго афармляў слонімскі мастак Рыгор Жук. Бар быў аформлены вось так,





як на гэтым другім здымку. Прыгожае афармленне. Не памятаю, працаваў ён хоць колькі часу, ці зусім не працаваў. Бо стала небяспечна, каб ад танцулек не рухнула сінагога. На памяць засталіся толькі старыя здымкі.

### Аўтар кнігі пра Парэчча

Аляксандр Талерчык (1932–2016) быў родам з вёскі Парэчча Слонімскага раёна. Пра сваю родную вёску ён напісаў і выдаў у Гародні кнігу, якая так і называецца «Парэчча». У ёй на аснове адшуканых архіўных матэрыялаў і асабістых успамінаў аўтар паказаў 450-гадовую гісторыю сваёй вёскі Парэчча. Шмат старонак у ёй адведзена Валовічам — былым гаспадарам Парэчча. Падрабязна і ўпершыню ў Беларусі даследчык апісаў патрыятычную дзейнасць і смерць Міхала Валовіча, актыўнага ўдзельніка паўстання 1830–1831 гадоў. Дзякуючы Аляксандру Талерчыку на могілках у вёсцы Парэчча быў адноўлены мемарыяльны знак, прысвечаны Валовічам і яго паплечнікам, якія загінулі ў барацьбе



супраць Расійскай імперыі. Ён фінансаваў аднаўленне гэтага знаку.

У сваёй кнізе пра родную вёску Аляксандр Талерчык таксама цікава напісаў пра лёс вясковых настаўнікаў і святароў, якія працавалі і служылі ў Парэччы. Аўтар паказаў няпростае жыццё вяскоўцаў у калгасе, іх пакуты і праблемы падчас Першай і Другой сусветных войнаў…

Аляксандр Талерчык усё жыццё пражыў у Гародні. Яго добра ведалі і гарадзенцы, і слонімцы. Ён цікавіўся гісторыяй сваёй Бацькаўшчыны, быў рупліўцам беларушчыны, перажываў за стан роднай мовы.

Паводле адукацыі Аляксандр Талерчык быў інжынерам, а не гісторыкам. Але заўсёды імкнуўся як мага болей зрабіць для беларускасці, нічога не адкладваў на заўтра. Калі трэба было дамагчыся ўсталяваць помнік кампазітару Антону Валынчыку ў Гародні, адразу пайшоў з іншымі сябрамі ТБМ да абласнога начальства і дамогся. Помнік Антону Валынчыку і мемарыяльную шыльду ў Гародні ўстанавілі…

### Жыхар Ізраіля выдаў кнігу пра Слонімскі мясакамбінат, 2015 год

У Слонімскай друкарні ў 2015 годзе свет пабачыла кніга жыхара Ізраіля Міхаіла Белкіна «Маё жыццё», прысвечаная гісторыі Слонімскага мясакамбіната.

Справа ў тым, што Міхаіл Белкін з 1959 да 2002 года працаваў дырэктарам і намеснікам дырэктара Слонімскага мясакамбіната, якому аддаў разам 43 гады. Жыў потым



у Ізраілі. Але не парываў сувязей з роднай Беларуссю і прадпрыемствам у Слоніме.

У сваёй кнізе «Маё жыццё» аўтар распавёў аб пражытых гадах на Слонімшчыне, пра гісторыю Слонімскага мясакамбіната, пра лёсы людзей, якія там працавалі, а таксама пра сённяшнія будні гэтага прадпрыемства.





### Ён хацеў упрыгожыць Слонім

У апошні дзень красавіка 2017 года трагічна загінуў адзін з таленавітых людзей Слоніма — Леанід Богдан, якому ад нараджэння Бог надарыў яго талентам мастака. Загінуў ён трагічна, ад рук роднага ўнука. Гэта трагедыя шакіравала ўсю Беларусь…

У школе Лёня быў звычайным хлопчыкам, нават трохі сарамлівым. Але, калі пачынаў нешта рабіць — майстраваць ці маляваць — то атрымлівалася лепш за ўсіх школьнікаў і нават настаўнікаў.



Праўда, пасля школы лёс яго закінуў не ў мастацкае вучылішча, а ў чыгуначны тэхнікум. Аднак жаданай рамантыкі ў тэхнікуме і на чыгунцы ён не знайшоў. Таму хутка паступіў у Маскоўскі завочны народны універсітэт мастацтваў. Вучыўся на факультэце жывапісу і графікі. Вучоба падабалася і Леанід шмат даведаўся новага і цікавага пра скульптуру. Таму пасля сесій і

працы, з радасцю браўся за гліну і пластылін, з якіх ён ляпіў знаёмых сяброў і суседзяў.

Калі скончыў універсітэт, Леанід нікуды не паехаў, а назаўсёды свой лёс звязаў з родным Слонімам, які вельмі моцна любіў і хацеў, каб ягоны горад над Шчарай быў самым прыгожым у Беларусі, і каб яго штогод наведвалі тысячы турыстаў з усіх краін свету.

У 1970–1980-х гадах Леанід Богдан працаваў у Слоніме на розных работах, але найбольш падабалася мастаком-афарміцелям у кінатэатры «Мір». Ён не толькі выконваў мастацкія працы ў кінатэатры, але сур’ёзна захапіўся скульптурай, а потым — і гісторыяй роднага краю, біяграфіяй яго знакамітых людзей. Ён стаў шмат чытаць, знаходзіць матэрыялы па гісторыі Слонімшчыны, Беларусі, па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. І вядома ж, ствараць партрэты знакамітых людзей.

Першымі яго самастойнымі бюстамі былі партрэты касманаўта Юрыя Гагарына і паэта Валянціна Таўлая. Калі працаваў над бюстам Валянціна Таўлая — шмат перачытаў літаратуры пра яго, вершаў паэта. Нават кансультаваўся ў слонімскага пісьменніка Анатоля Іверса (Івана Міско), які некалі сябраваў з Таўлаем. Менавіта ад Анатоля Іверса Леанід даведаўся і пра гісторыю Слонімшчыны, пра дзейнасць у першай палове XX стагоддзя Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Зрабіў у 1987 годзе і выдатны бюст паэта Анатоля Іверса.

А потым слонімскі мастак зацікавіўся творчасцю Адама Міцкевіча. Перачытаў яго паэмы. А адна — «Гражына» — проста зачаравала скульптара. Пасля гэтага Леанід стварае скульптурны вобраз Гражыны — наваградскай князёўны. Лічу, гэта адна з найвыдатнейшых ягоных прац.

Дзесьці ў канцы 1980-х гадоў я і пазнаёміўся з Леанідам. Памятаю, быў час, калі ён на Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыцы так прыгожа аформіў дыскатэку, што гэта была адна з найлепшых дыскатэк па тым часе. А, напрыклад, у Слонімскім гарбыткамбінаце ён зрабіў цудоўны тэнісны корт. Ды і сам час ад часу любіў пагуляць у тэніс.

І ўсё ж мастацтва і скульптура ў ім проста жылі і перамагалі. Леанід стварае бюсты сваіх сяброў, пісьменнікаў, дзеячаў грамадскага руху 1920–1930-х гадоў. Ён вылівае іх з гіпсу і дорыць бясплатна не толькі сябрам і знаёмым, але і школам, бібліятэкам, музеям. Нават зрабіў мой бюст у 1999 годзе. Адзін асобнік падараваў мне, ён знаходзіцца ў маіх хатнім кабінеце.

Шчыра сябраваў Леанід Богдан з нашым земляком доктарам філалагічных навук, прафесарам Алегам Лойкам. І яго бюст таксама зрабіў.








Ён стварыў вялікі герб Слоніма. І дзясяткі маленькіх. Марыў вялікі герб Слоніма паставіць у цэнтры горада.

Леанід Богдан быў, як кажуць, майстрам на ўсе рукі. Сотні разоў бываючы ў яго майстэрні, я здзіўляўся яго апантанасці, майстэрству, фантазіі. Лёня быў сціплым чалавекам, не кожнаму ён мог расказаць пра свае творчыя планы, а тым больш паказаць, як ён працуе, шліфуе, перарабляе. З ім трэба было сябраваць доўга і шчыра, бо толькі тады ён мог па-сяброўску распавесці пра свае творчыя задумкі.

У яго майстэрні заўсёды ішоў творчы працэс. Шмат часу ён аддаў, працуючы над помнікам Статуту Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Лёня мне казаў, што ён мяркуе гэты помнік ўсталяваць у Слоніме ў цэнтры горада каля музея замест бюста арла, які там стаіць, бо той арол зусім не пасуе. На спецыяльным пастаменце, распавядаў Леанід, будзе ляжаць сам вялікі Статут. На Статуце — адціснутая далонь. Кожны слонімец ці госць горада зможа падыйсці да гэтага помніка-кніжкі, прачытаць яе і даведацца, што гэта Статут Вялікага Княства Літоўскага, гэта значыць — звод законаў нашай дзяржавы, помнік беларускай пісьменнасці, мовы і юрыдычнай думкі, і прыкладзе ў адціснутую далонь сваю, нібыта зложыць клятву перад Статутам у любові да сваёй Бацькаўшчыны.

Гэта дзякуючы Леаніду Богдану мы маем у Слоніме мемарыяльную шыльду, прысвечаную заснаваль-

ніку Слонімскага краязнаўчага музея Язэпу Стаброўскаму, якая прымацавана на будынку музея. Гэта Леанід зрабіў шыльду піянеругерою Васі Крайняму. І яго заслуга ў тым, што ён стварыў і прымацаваў на будынку Слонімскага драмтэатра шыльду, прысвечаную Міхалу Казіміру Агінскаму (1730–1800) — пачынальніку тэатральнага мастацтва на Слонімшчыне. І ўсё гэта Леанід Богдан зрабіў бясплатна і падараваў Слоніму.

Незадоўга да смерці Леанід паклікаў мяне ў майстэрню і паказаў сваю новую працу, прысвечаную Агінскім. Я ўбачыў на барэльефе адлюстраваны слонімскі староста Міхал Казімір Агінскі, які сядзіць за піяніна, а побач стаіць яго пляменнік Міхал Клеафас Агінскі са скрыпкай, аўтар шматлікіх паланэзаў, у тым ліку і паланэз ля мінор «Развітанне з Радзімай». На крышцы піяніна напісаныя словы: «Слонім. Агінскія. Паланэз». А воддаль, нібы праз вакно, віднее стары Слонім з ягонымі архітэктурнымі храмамі XVIII–XIX стагоддзяў. Цудоўная задума і твор скульптара — яшчэ адзін помнік славутым Агінскім, лёс якіх быў звязаны і са старажытным горадам над Шчарай.

На вуліцы Савецкай у Слоніме захаваўся будынак другой паловы XVIII стагоддзя, пабудаваны архітэктарам Боем, які ён праектаваў пры палацы Міхала Казіміра Агінскага. Пры палацы Агінскага ў гэтым будынку была аўстэрыя (заезны дом). Ён сёння нагадвае слонімцам і гасцям горада пра Міхала Казіміра Агінскага. Некалі свой Слонім Агінскі ператварыў у «сядзібу муз», вядомую ва ўсёй Еўропе, але сёння амаль забытую ў Беларусі. Слонімскі скульптар Леанід Богдан стварыў бюст Міхала Казіміра Агінскага. Ён марыў яго ў спецыяльнай арцы прымацаваць на былой аўстэрыі Агінскага. Каб слонімцам і гасцям горада над Шчарай было бачна, хто з'яўляўся некалі яго гаспадаром.

На вуліцы Опернай у Слоніме быў пастаўлены вялікі валун. На ім выбіты тэкст: Замчышча і гады: XI–XVIII стст. Гэта таксама работа Леаніда Богдана. Дарэчы Слонімскі замак (замчышча) — назва старажытнага цэнтра Слоніма, а таксама шэрагу палаца-паркавых комплексаў пабудаваных на яго месцы ў XI–XVIII стагоддзях. Спачатку быў пабудаваны драўляны астрог, потым дзядзінец, а пазней — драўляны замак на высокім насыпе з падпорнай сценкай з вялікіх камянёў, які быў разбураны пасля 1506 года. У 1520 годзе перабудаваны ў невялікі драўляны палац з залай пасяджэнняў, дзе ў другой палове XVII стагоддзя адбываліся генеральныя сеймікі. Палац быў абнесены драўлянымі гароднямі з вежамі. Цяпер пра замчышча ў Слоніме будзе нагадваць вялікі валун. Гэты самы валун

слонімцам будзе нагадваць і пра скульптара Леаніда Богдана.

Адной з апошняй нашай сумеснай паездкай на аўтамабілі Леаніда была вандроўка ў вёску Орлавічы на магілу Стаброўскіх. Адзін з іх — Язэп Стаброўскі быў заснавальнікам Слонімскага краязнаўчага музея. З намі разам паехалі яшчэ мастак Яўген Іваноў і грамадская актывістка Леанарда Рэўкоўская. Мы прыбралі магілы, запалілі запальнічкі, а Леанід, гледзячы на драўляныя крыжы, маўчаў. Ён глыбока нешта думаў, а потым сказаў: «Нельга, каб былі такія магілы Стаброўскіх. Іх трэба добраўпарадкаваць і паставіць сучасныя помнікі. Я зраблю іх праекты, а пасля будзем усе разам думаць пра помнікі. Ды і дарога сюды павінна быць вартая, дарога да Стаброўскіх». Мы — пагадзіліся. А па дарозе ў Слонім Леанід распавядаў пра свае новыя планы, найперш звязаныя з каналам Агінскім і з праектам па добраўпарадкаванню канала, удзел у якім ён ужо актыўна прымаў. Але трагічны лёс ўсе яго планы раптоўна і назаўсёды перакрыжаваў.

## Новая капліца замест старой, якую асвятляў слуцкі паўстанец, 2018 год

У вёсцы Гуменікі Слонімскага раёна 21 красавіка 2018 года ўрачыста адкрылі і асвяцілі праваслаўную драўляную капліцу, якую пабудавалі слонімскія мастакі і будаўнікі. Яна з’явілася амаль па тым праекце, якая была тут пабудавана і асвечана ў 1923 годзе Хведарам Данілюком (1887–1960) і Паўлам Лысухам (1892–1954). Хведар Данілюк і Павел Лысуха былі родам з суседняе вёскі Сурынка. Хведар Данілюк у 1919–1920 гадах служыў у Беларускай вайсковай камісіі,



Новая капліца замест старой, якую асвятляў слуцкі паўстанец, 2018 год

прымаў удзел у Слуцкім паўстанні. У 1921 годзе прыняў святарскае пасвячэнне. Павел Лысуха атрымаў рэлігійную адукацыю, служыў пэўны час псаломшчыкам-рэгентам, а ў 1923 годзе яго пасвячаюць у сан дыякана. Потым жыў у Беластоку, служыў вікарным святаром Свята-Мікалаеўскага праваслаўнага кафедральнага сабора ў Беластоку. У Беластоку Павел Лысуха даслужыўся да протаіерэя, пражыў там 27 гадоў.

Настаяцель прыхода храма святога прарока Іллі ў вёсцы Сурынка протаіерэй Генадзь Логін паказаў шыльдачку і крыж, калі была аднаўлена капліца Хведарам Данілюком і Паўлам Лысухам. Па словах святара Генадзя Логіна, тая старая капліца зусім згніла і яе нават немагчыма было рэстаўраваць і аднавіць. Таму было вырашана пабудаваць новую падобную капліцу, якую дапамаглі аднавіць мясцовыя жыхары, а таксама фундатар Аляксандр Севасцьян, якога архіепіскап Наваградскі і Слонімскі Гурый узнагародзіў медалём прападобнага Елісея Лаўрышаўскага, а граматай — Рыгора Жука, Міхаіла Севасцьяна і Ганну Грэшчык.

## Брукоўка польская і «брукоўка» савецкая ў Азарычах, 2018 год

Вёска Азарычы на Слонімшчыне, як кажуць у народзе, неперспектыўная, выміраючая. Яна знаходзіцца па дарозе са Слоніма на Дзятлава—Ліду-Вільню, кіламетраў 12 ад Слоніма. Па словах вяскоўцаў, цяпер у ёй пражывуць 20 пенсіянераў і 15 маладых асобаў, а зімуюць — чалавек 25. У вёсцы нічога няма — ні крамы, ні клуба, ні ФАПа (а яго ніколі і не было), толькі шмат пустых хат, ёсць студні з жураўлямі і адна вуліца-брукаванка.



Брукоўка польская і «брукоўка» савецкая ў Азарычах, 2018 год

Вуліцу забрукавалі яшчэ пры Польшчы. Тут жыў пан, меў свой маёнтак. Але і маёнка ўжо даўно няма. Час і людзі ўсё знішчылі. У 1920-х-1930-х гадах у Азарычах было 37 двароў, пражывалі 167 жыхароў. Ды і 15 гадоў таму вёска яшчэ налічвала «жывых» 53 двары, дзе пражывалі 102 жыхары. Была крама, а цяпер два разы на тыдзень прыязджае аўталаўка.

Як кажуць вяскоўцы, да вайны і пасля вайны вёска ганарылася сваёй прыгожай і моцнай брукаванай вуліцай. Але дзесьці ў 1970-х гадах наверх брукоўкі паклалі савецкі асфальт. І цяпер савецкая «брукоўка» даўно амаль знішчылася, а пад ёй засталася сапраўдная брукаванка. А калі б зусім не чапалі вуліцу, то польская брукоўка і сёння ўпрыгожвала б вуліцу ў Азарычах. Па ёй некалі ездзілі, кажуць жыхары вёскі, на брычках на драўляных колах.

Калі заглянуць у далёкую гісторыю вёскі, то яна пачынаецца з XVI стагоддзя, гэта была ўласнасць Валовічаў. А напачатку XIX стагоддзя гаспадаром Азарычаў быў Казімір Валовіч. Тут працавалі вінакурня на цагляных слупах і саладоўня. А ў 1855 годзе — гэта ўжо маёмасць пана Папроцкага, а потым — пані Алены Юрэвіч. Так што Азарычы маюць багатую гісторыю. А калі пра іх пісаць біяграфію, то ў розных архівах можна знайсці шмат цікавых дакументаў.

### Стары храм у Пераналоцы

Паглядзець найстарэйшы на Слонімшчыне праваслаўны храм Архангела Міхаіла у вёсцы Пераваллока паехаў у 2018 годзе з мясцовым паэтам і журналістам Міколам Канановічам. Вёска ад райцэнтра знаходзіцца вельмі далёка, бліжэй ад яе да Ружанаў — 12 кіламетраў, а да Слоніма больш за 20. Але ехаць на машыне і гутарыць з Міколам Канановічам вельмі прыемна, бо ён родам з вёскі Вострава, а гэта побач з Пераваллокай. Многія жыхары Вострава лічаць храм Архангела Міхаіла востраўскім. І сам Мікола ўсміхаецца і кажа, што храм наш: «Першая згадка пра храм у Пераваллоцы адносіцца да 1559 года. Існуе навал паданне, што сённяшні храм быў перавезены з іншага месца за тры кіламетры».

Мікола распавядае пра стары побач каменны з крыжамі могільнік, пра тое, што сцяна вакол храма была пабудавана вельмі даўно, бо дзяды і дзядоў дзяды казалі, што заўсёды гэта каменная сцяна ахоўвала храм. «Храм у Пераваллоцы пе-





рабудоўваўся ў 1740 і 1820 гадах. Апошні раз храм перабудавалі ў 1864 годзе. Якраз пасля паўстання 1863 года, і царква да гэтага часу ў Перавалоцы была ўніяцкай. З 1864 года і зберагаецца яна ў гэтым выглядзе», — распавядае спадар Мікола.

У вельмі прыгожым месцы стаіць храм. Вакол цішыня і спакой. На вясковых агародах з боку рачулкі Дэйкі маюцца слаба выражаныя сляды селішча з кружальнай керамікай і шлакам ад выплаўкі ці апрацоўкі жалеза. Другое селішча з позняй ляпной і кружальнай керамікай, а таксама са шлакам ад плаўкі жалеза археолагамі былі выяўлены пры рачулцы Іярданка, на поўнач ад вёскі, якраз паблізу храма.

Вёска Перавалока вядома была яшчэ з XVI стагоддзя. Ды не вёска, а баярскае сяло ў Слонімскім старостве, якое заставалася баярскім і плаціла толькі чынш. І ўпрыгожваў сяло заўсёды гэта стары гістарычны храм.

## Жыровіцкі фэст, 20 мая 2019 года

У вёсцы Жыровічы штогод 20 мая адбываецца Жыровіцкі фэст, прысвечаны Іконе Жыровіцкай Божай Маці. Свята заўсёды пачынаецца з самай раніцы богаслужэннем. А потым адбываецца акафіст перад цудатворнай Іконай Божай Маці і святочны фестываль-канцэрт.

Святочны канцэрт праходзіць да позняга вечара на сцэне-караблі каля старой жыровіцкай крыніцы. Сотні людзей не толькі пакланяюцца святой Іконе, а таксама глядзяць выступленні харавых калектываў, вакальна-інструментальных ансамбляў, розных салістаў і паэтаў з усіх куткоў Беларусі, якія прыязджаюць на свята ў Жыровічы.





Фестываль «Паланэз», 2019 год

## Фестываль «Паланэз», 2019 год

У канцы траўня ў Слоніме адбыўся 15-ы па ліку традыцыйны фестываль «Паланэз». За гэтыя гады ў ім прымалі ўдзел госці не толькі з Беларусі, але і з Польшчы, Літвы, Латвіі, Украіны, Расіі, Германіі. Спачатку фестываль пачынаўся ад пажарнай вежы, што знаходзіцца ў Слоніме на вуліцы Пушкіна, а ў апошнія гады — з набярэжнай канала Агінскага. Пасля ўрачыстай лінейкі ўсе ўдзельнікі фестывалю праходзяць калонай да Цэнтра культуры, дзе адбываюцца конкурсныя выступленні.

## Першы алейны партрэт Лукаша Дзекуць-Малея, 2019 год

Слонімская мастачка Надзея Салейка завяршыла працу над вялікім алейным партрэтам Лукаша Дзекуць Малея (1888–1955) — аднаго з самых славутых пратэстанцкіх пастараў Беларусі і аднаго з кіраўнікоў БНР. Знайшоўшы і прыняўшы праўду Евангелля ў 23 гады, Лукаш Дзекуць-Малей да канца жыцця заставаўся ёй верны. Ва ўзросце 30 гадоў Дзекуць-Малей пачаў служыць справе незалежнай Беларусі. Ён прымаў удзел у органах кіравання Беларускай Народнай Рэспублікі, адстойваў права на родную мову для беларускіх вучняў і настаўнікаў, неаднаразова сядзеў за гэта ў турме.





Першы алейны партрэт Лукаша Дзекуць-Малея, 2019 год

Лукаш Дзекуць-Малей усё жыццё займаўся перакладам Бібліі на беларускую мову. Бог яму даў магчымасць убачыць і нават патрымаць у руках сваю ўласную тытанічную працу — Новы Запавет і Псалмы на беларускай мове.

Карціна Надзеі Салейка з'яўляецца першым мастацкім партрэтам Лукаша Дзекуць-Малея. На ім мастачка паказала ўвесь жыццёвы шлях прапаведніка і грамадскага дзеяча — ад нараджэння да сталінскіх рэпрэсій, ад вяртання на Бацькаўшчыну і любові да беларускай культуры, ад жыцця да самай смерці. Позірк Лукаша Дзекуць-Малея з карціны нібы нагадвае яго словы: «Маліўся Богу, каб Ён міласэрны даў Вам здароўе, каб маглі папрацаваць дзеля свайго народу...».

## Кішэнныя каляндарыкі да Дня беларускага пісьменства, 2019 год

Слонімская друкарня выпусціла тры віды прыгожых кішэнных каляндарыкаў, прысвечаных Дню беларускага пісьменства і друку.

На каляндарыках адлюстраваны Францыск Скарына, герб Слоніма, фотаздымкі Слоніма і тэкст, які нагадвае, што 1 верасня 2019 года ў Слоніме адбудзецца рэспубліканскае свята. Праўда, з адваротнага









боку каляндарыкаў тэкст напісаны па-расійску.

### Знойдзены старыя дакументы, ліпень 2019 года

Падчас капітальнага рамонту Слонімскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Якуба Коласа, якая знаходзіцца ў будынку старой ратушы, на яго гарышчы будаўнікі









адшукалі шмат папяровых дакументаў пачатку XX стагоддзя. Сярод старых дакументаў знойдзены пасведчанне страхавой кампаніі «Саламандра» 1901 года, паштовыя карткі з пячаткамі Слоніма, Наваградка і Зэльвы пачатку XX стагоддзя, віншавальныя навагоднія пажаданні ад Ісака Восіпавіча Азярніцкага і Руткоўскага з жонкай і шэраг іншых папераў.

### Вежа з паланэзам Агінскага, ліпень 2019 года

У Слоніме на вуліцы Пушкіна ўжо 90 гадоў знаходзіцца чатырохпавярховая воданапорная вежа. А побач — каланча. Пачынаючы з 1929 года два разы на дзень з каланчы музыка іграў паланэз Агінскага «Развітанне з Радзімай». Гэта традыцыя была да верасня 1939 года. А потым на дзесяцігоддзі яна знікла. І толькі ў 2015 годзе адзін раз на дзень у поўдзень гучыць славуты паланэз. А гэты раз з самой вежы.

Вежа мае плошчу каля 180 кв. метраў. У ёй у пасляваенныя гады быў музей водаправода, кафэ, крама, дзе прадавалі гарбатку і каву, цырульня, прадпрыемства «Футбольны клуб «Слонім» і г. д. Цяпер стогадовая вежа гарадскім уладам стала не патрэбна. І яе прадалі разам з паланэзам Агінскага.

### Гашэнне маркі і канверта ў гонар Слоніма, 10 ліпеня 2019 года

Міністэрства сувязі і інфарматызацыі 10 ліпеня выпусціла паштовую марку ў абарачэнне, прысвечаную Слоніму.

Паштовы праект, які складаецца з паштовай маркі, канверта «Першы дзень» і спецыяльнага штэмпеля, падрыхтаваны рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам



Вежа з паланэзам Агінскага, ліпень 2019 года




Гашэнне маркі і канверта ў гонар Слоніма, 10 ліпеня 2019 года

паштовай сувязі «Белпошта» і Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь.

Гашэнне маркі і спецыяльнага канверта, на якім адлюстраваны Свята-Успенскі Жыровіцкі манастыр, адбылося ў памяшканні Слонімскага драматычнага тэатра. У цырымоніі прынялі ўдзел жыхары Слоніма. І хто пажадаў, той змог набыць сабе і марку, і канверт на памяць.



## Змест

*У кнізе выкарыстаны фотаздымкі*
*з асабістага архіва аўтара і з сайтаў Інтэрнэту*

12+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

# ГІСТАРЫЧНАЯ МАЗАІКА СЛОНІМШЧЫНЫ

*Кніга другая*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Набор *С. Чыгрына*
Вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 19.08.2019. Фармат 70×100 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 10,69. Ул.-выд. арк. 3,92.
Тыраж 200 экз. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ПУП «Джы энд Дзі».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/36 ад 13.01.2014.
Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, Мінск.